14 чэрвеня 2019 | № 22 (633)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144




• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Іншапланецяне існуюць!
Стар. 9



# Феномен Ігара Шуневіча

## Скандальная адстаўка скандальнага міністра



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

Адстаўка міністра ўнутраных спраў — самая незвычайная ў найноўшай гісторыі Беларусі.

Пачнём з таго, што яна відавочна не планавалася загадзя. 10 чэрвеня Лукашэнка выклікаў міністра, каб той зрабіў справаздачу аб тым, як міліцыя збіраецца забяспечваць парадак падчас II Еўрапейскіх гульняў.

Першае паведамленне пра сустрэчу з'явілася на сайце БелТА ў 11.15. Кіраўнік Беларусі ставіў перад міністрам задачы, тлумачыў, як павінна працаваць МУС падчас II Еўрапейскіх гульняў. Падрабязна даводзіў, што варта рабіць, а што не.

Потым перайшлі да іншых пытанняў. Пагаварылі пра справы з хакейным клубам «Дынама–Мінск», дзе міністр унутраных спраў традыцыйна старшынюе ў назіральнай радзе. Лукашэнка зноў даў каштоўныя ўказанні.

Затым Шуневіч распавёў, што крыніцы ўцечкі інфармацыі ў МУС устаноўленыя, датычныя да гэтага супрацоўнікі будуць звольненыя. Усё адбывалася спакойна, руцінна, у рабочым рэжыме. А потым пачаўся амаль дэтэктыўны сюжэт.

А ў 14.22 з'явілася паведамленне БелТА аб звальненні Ігара Шуневіча з пасады міністра. З гэтай інфармацыі можна зрабіць выснову, што гутарка кіраўніка краіны з кіраўніком МУС зацягнулася на цэлыя тры гадзіны. Гэта шмат для шараговай, звычайнай справаздачы міністра.

Можна меркаваць, што падчас самой размовы здарылася нешта нечаканае, незапланаванае, што падштурхнула Лукашэнку да радыкальнага кадравага рашэння. Бо навошта было ставіць задачы перад міністрам, які адразу ж звольніцца? І гэта напярэдадні Еўрапейскіх гульняў, падчас якіх парадак і бяспека ляжаць на плячах міліцыі. У такі час рабіць радыкальныя змены ў кіраўніцтве МУС, здавалася б, не выпадае. Нават калі Лукашэнка і быў незадаволены Шуневічам, то лагічна было б пачакаць адзін месяц, пакуль не закончыцца гэта спартовае мерапрыемства, якому кіраўнік дзяржавы надае надзвычай вялікае значэнне.

Прычым, звяртае на сябе ўвагу пэўны ступар дзяржаўных медыя. На афіцыйным сайце кіраўніка Беларусі так і засталася (ва ўсялякім разе, на момант напісання артыкула, то-бок, 11 чэрвеня) інфармацыя пра задачы, якія ставіць Лукашэнка кіраўніку МУС Шуневічу. Таксама тэлеканалы БТ увесь дзень 10 чэрвеня дэманстравалі адзін і той жа сюжэт, які запісалі ў першай палове сустрэчы, дзе кіраўнік дзяржавы дае ўказанні міністру, які на момант выхаду перадачы ўжо не міністр. Поўны сюррэалізм. Гэта проста класіка, ілюстрацыя для падручніка пра дзейнасць дзяржаўных медыя ў несвабоднай краіне. Паколькі новая ўстаноўка не з'явілася, то яны гоняць старыя сюжэты, якія абсалютна не адпавядаюць рэчаіснасці. І, дарэчы, гэта яшчэ адзін аргумент на карысць таго, што адстаўка Шуневіча не планавалася. Таму дзяржаўныя медыя аказаліся абсалютна не падрыхтаваныя да хуткай змены сітуацыі.

Але тое яшчэ не канец гэтага займальнага фільму. Зноў жа, здаецца, упершыню ў найноўшай беларускай гісторыі, першым інфармацыю пра адстаўку паведаміў сам апальны чыноўнік. БелТА паведаміла пра гэту падзею, спасылаўшыся на самога Шуневіча.

Для Беларусі гэта не характэрна. У нас міністры не маюць ніякай свабоды волі. Лукашэнка не пытае згоды чыноўніка як падчас прызначэння яго на адказную пасаду, так і пры яго звальненні. Пра ўсе кадравыя рашэнні кіраўніка дзяржавы паведамляецца ці то са спасылкай на яго прэсавую службу, ці на афіцыйны прэзідэнцкі ўказ.




А тут — нябачная справа — сам былы міністр паведаміў пра сваю адстаўку. А хіба так можна? У нас жа лёсам людзей распараджаецца той, хто крыху вышэй за Бога.

Цяпер у медыя існуе шмат разважанняў наконт таго, за што звольнілі Шуневіча. На мой погляд, пытанне ставіцца не зусім карэктна. Правільней было б паставіць пытанне па-іншаму: чаму так доўга яго не звальнялі? Чаму ён быў такі непатапляльны?

Справа ў тым, што ўсе сем гадоў кіравання Шуневічам МУС, яму спадарожнічалі бясконцыя скандалы. У Беларусі 24 міністэрствы і, значыць, столькі ж міністраў. Працуюць яны па-рознаму. Але менавіта

> **Па колькасці скандалаў МУС знаходзіцца па-за канкурэнцыяй у параўнанні з іншымі органамі ўлады**

Міністэрства ўнутраных спраў сёння найбольш выклікае нараканняў. Па колькасці скандалаў гэтае ведамства знаходзіцца па-за канкурэнцыяй у параўнанні з іншымі органамі ўлады — абсалютны чэмпіён.

Не толькі трапіўшыя ў інтэрнэт сюжэты, дзе міліцыянты б'юць людзей. Была трагікамічная гісторыя, як з сейфа міністэрства скралі 270 тысяч долараў. А серыял са скульптурай «Мінскі гарадавы» стаў часткай беларускага палітычнага фальклору. Быў яшчэ гучны скандал у Крычаўскім РУУС.

Тое, што справы ў МУС зусім дрэнныя, неаднаразова прызнаваў і сам міністр. Напрыклад, 1 снежня 2016 года Шуневіч у інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1» заявіў, што «ў гэтым годзе супраць супрацоўнікаў міліцыі было распачата 123 крымінальныя справы»(!). 31 траўня 2017 года міністр паведаміў журналістам, што МУС кожны тыдзень выяўляе тых, хто парушае прафесійную дысцыпліну. «Мы кожны тыдзень, у асноўным па выхадных, праводзім рэйды па праверцы паводзін супрацоўнікаў міліцыі. І практычна кожны раз знаходзім тых, хто паводзіць сябе некарэктна», — казаў Шуневіч.

Працяг на стар. 2 »

# Феномен Ігара Шуневіча

« Працяг.
Пачатак на на стар. 1

То-бок, нават паводле прызнанняў міністра, МУС з'яўляецца самай незаконапаслухмянай і нават крымінагеннай арганізацыяй не толькі сярод міністэрстваў, але ўвогуле сярод усяго беларускага грамадства. Орган, які павінен стаяць на абароне закону, з'яўляецца яго галоўным парушальнікам.

Здавалася б, апошняй кропляй у кар'еры Шуневіча павінна была стаць трагічная гісторыя гібелі супрацоўніка магілёўскага ДАІ Яўгена Патаповіча і «цыганскі пагром», учынены міліцыяй. У выніку кіраўніцы Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Качанавай давялося ехаць у Магілёў і выбачацца ад імя кіраўніка краіны перад цыганамі за міліцэйскае бязмежжа. Гэта нябачная справа для Беларусі. То-бок, кіраўнік дзяржавы сваім аўтарытэтам вымушаны прыкрываць ганебныя справы міліцыі.

Аднак з міністра — як з гусі вада. Яму даравалася ўсё.

Не думаю, што пры Шуневічу міліцыя насамрэч працавала горш, чым пры яго папярэдніках. А вялікая колькасць скандалаў тлумачыцца тым, што моцна змянілася інфармацыйная сітуацыя. У эпоху інтэрнэта ўлада стала больш бачнай. Усе яе глупствы і нядобрыя справы вельмі хутка становяцца вядомыя насельніцтву і, адпаведна, каментуюцца ў сацыяльных сетках.

Кіраўніцтва МУС пры Шуневічу прапанавала цэлую філасофію свайго ведамства. Вось міністр МУС адзявае форму камісара НКУС. Вось начальнік ГУУС Мінгарвыканкама А. Барсукоў сцвярджае, што скульптура царскага гарадавога — гэта «святое месца».

Для грамадства НКУС — злавесная структура, сімвал страшэнных злачынстваў, пра якія нагадваюць Курапаты. А для міністра — гэта гістарычная спадчына, якой ён ганарыцца і, мабыць, гатовы прытрымлівацца. Паліцэйскі часоў царскага самадзяржаўя як сваты сімвал — таксама вельмі паказальна.

Інакш кажучы, зусім не выпадкова кіраўніцтва беларускай міліцыі культывуе сімвалы паліцэйскай дзяржавы. Гэта такая мадэль палітычнага ладу, у якім сілавыя структуры пануюць над бяспраўным народам, за імі адсутнічае грамадзянскі кантроль. Таму кіраўніцтву МУС зусім не важна, што пра міліцыю думае насельніцтва. У такой сістэме праваахоўныя органы не столькі абараняюць народ ад злачыннасці, колькі бароняць уладу ад народа.

Вось Лукашэнка падчас апошняй сустрэчы з Шуневічам казаў, што міліцыя спрабуе ператварыць спартовыя аб'екты ў гета і канцлагеры. Не выпадкова апазнавальным знакам беларускай сталіцы становіцца «аўтазак».

Паводле шматлікіх апытанняў НІСЭПД, рэйтынг даверу да МУС сярод усіх дзяржаўных інстытутаў самы нізкі. Думаю, непапулярнасць МУС і яго кіраўніцтва сярод насельніцтва была нават выгадная Лукашэнку. Калі народ ненавідзіць міліцыю, то апошняя адчувае сябе як акупацыйнае войска на акупаванай тэрыторыі. І паводзіць сябе адпаведна. Акупацыйнае войска мае справу з чужым народам, які не варта шкадаваць. У такой сітуацыі міліцыя будзе больш заўзята абараняць існуючы рэжым і яго кіраўніка. Бо варта толькі крыху паставіць пад сумнеў неабмежаванае права міліцыянтаў жорстка душыць усіх, незалежна ад іх вінаватасці, то аўтарытарная мадэль пачне падточвацца. Таму спрацоўвае інстынкт самазахавання сістэмы. А Шуневіч быў проста сімвалам сістэмы, існага рэжыму.

# У маці хочуць забраць дзіця

**Марыя Галалюк выхоўвае сына-інваліда, якому патрэбны практычна кругласутачны догляд. Яны з мужам удзельнічаюць у акцыях пратэсту супраць будаўніцтва ў Брэсце акумулятарнага завода.**




Пасля выхаду артыкула пра іх у незалежных СМІ ў органы апекі паступіла скарга, што Марыя «кожную ноч пасвіцца з чатырма мужыкамі каля прахадной завода, начуючы ў аўтамабілі разам з імі». Аўтар кляўзы прапанаваў забраць у жанчыны дзіця ў прытулак — і ў сям'ю прыйшла праверка.

Брэстаўчаніну Ваню 12 гадоў. У яго рэдкае генетычнае захворванне Галервардэна—Шпатца. Ён прыкаваны да ложка, побач з якім знаходзіцца медыцынскі апарат. Маці Вані Марыя Галалюк падыходзіць да ложка, бярэ ў рукі трубку, далучаную да абсталявання, і падносіць яе да рота сына.

«Гэтая працэдура называецца санацыя. Гэта калі ў дзіцяці няма глытальнага рэфлексу, яно не можа праглынуць сліну. Па меры таго, як яна збіраецца, трэба яе даставаць. Працэдура жыццёва неабходная», — расказвае Марыя.

Працэс санацыі пастаянны. Як часта трэба яго праводзіць, залежыць ад розных фактараў: умоваў надвор'я, стану дзіцяці. Часам электраадсос даводзіцца выкарыстоўваць раз на 20 хвілін, часам — кожныя 3–4 хвіліны. Выключэнне — ноч, дзіця ў гэты час спакойна спіць. Увесь астатні час бацькам даводзіцца пазменна дзяжурыць каля дзіцяці. Муж Марыі працуе, а на яе саму аформлена дапамога па доглядзе інваліда — ад дзяржавы яна атрымлівае штомесяц 500–600 рублёў. Усяго ж догляд Вані патрабуе каля 1200 рублёў — дапамагаюць дабрачынныя арганізацыі.

Разам з Марыяй, Ванем і праваабаронцамі журналісты чакалі камісію ўпраўлення па адукацыі адміністрацыі Маскоўскага раёна Брэста. Па словах жанчыны, візіт камісіі — вынік яе з мужам удзелу ў акцыях пратэсту супраць будаўніцтва акумулятарнага завода.

«Усё пачалося, калі выйшаў артыкул на «Салідарнасці» пра тое, як мы дзяжурым каля завода. І прыйшоў нейкі ліст-кляўза, дзе было выліта шмат гадасцяў на мяне і маю сям'ю. Бо я выхоўваю дзіця-інваліда, я маці двух дзяцей, сёння да мяне прыйдуць органы апекі, якія хочуць пазнаёміцца з маёй сям'ёй, паглядзець умовы пражывання», — расказвае Марыя.

Камісія з трох чалавек агледзела кватэру, склала акт абследавання. Да ўмоваў, у якіх жыве дзіця, прэтэнзій у іх не аказалася. Супраць прысутнасці ў кватэры журналістаў і праваабаронцаў яны не пярэчылі. Дзяржслужачыя прызналіся, што праверка — вынік ліста, які атрымала іх кіраўніцтва: «А мы — самая нізкая прыступка ў гэтай структуры».

«Пазіцыя, якую мы займаем супраць акумулятарнага завода? Любы грамадзянін у горадзе Брэсце павінен трошкі пазмагацца за чыстае паветра, за здаровую нацыю, за здаровую будучыню нашых дзяцей. А тое, што ў маёй сям'і выхоўваецца такое дзіця, — гэта не мой мінус, гэта мой плюс», — рэзюмуе Марыя.

Пратэсты ў Брэсце супраць будаўніцтва акумулятарнага завода доўжацца ўжо больш за год.

**euroradio.fm**

# Будзьма разам! Будзьма з «Новым Часам»!

**Шаноўныя чытачы! Засталося зусім няшмат часу, каб аформіць падпіску на газету з ліпеня і далей.**

Падпісацца на пошце можна да 25 чэрвеня, падпіску праз інтэрнэт прымаюць да 20 чэрвеня.

Для тых, хто робіць газету, «Новы Час» — гэта больш чым праца. Гэта частка жыцця. За сваю 17-гадовую гісторыю газета перажывала ўзлёты (і тады ў нас была магчымасць распаўсюджваць газету бясплатна), узнагароды, страты (гэты свет пакінуў галоўны рэдактар газеты Аляксей Кароль), забарону на распаўсюд, суды... Але пры любым раскладзе газета працягвала выходзіць.

«Новы Час» разам ствараюць сталыя прафесіяналы і маладыя аўтары — менавіта гэта дазвалае выданню захоўваць сур'ёзны ўзровень і адначасова быць дынамічным. Нам ёсць куды расці і развівацца, ёсць жаданне станавіцца яшчэ лепшымі, але без вас, нашых чытачоў, без вашай падтрымкі гэта немагчыма.

Аформіць падпіску на «Новы Час» можна праз інтэрнэт, у аддзяленнях «Белпошты», пры дапамозе плацёжна-даведачных тэрміналаў. Таксама можна зрабіць заяўку ў любым аддзяленні паштовай сувязі на афармленне падпіскі паштальёнам у вас дома на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Падпісны індэкс «Новага Часу» — 63279, кошт падпіскі: на 1 месяц — 3 рублі 4 капейкі, на адзін квартал — 9 рублёў 12 капеек, на паўгоддзе — 18 рублёў 24 капейкі. Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям і сябрам, бацькам!**

Падтрымайце незалежную прэсу. Будзьма разам! Будзьма з «Новым Часам»!

# Ці добра каму ад адмены іспытаў у гімназіі?

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Спякотная раніца. Ля школы ўжо бітма машын — няшчасныя бацькі з ночы дзяжураць ля ўваходу, каб паспець падаць дакументы ў гімназію.**

У нас усё арганізавана: нізе бацькі атрымліваюць нумар чаргі, наверсе ўжо сядаюць за сталы ля стэндаў з інфармацыяй, запаўняюць заявы, як трэба, капіруюць дакументы з прынесеных арыгіналаў, усё ціха, спакойна, без гвалту. Рассеўшыся па лавах і крэслах, вядуць спакойныя гутаркі.

— Я ўсё ж не разумею, — кажа мужчына ў шлёпках. — Я не разумею, як гэта. Хто першы прыйшоў, таго і прынялі. Ну як жа гэта? Які ў гэтым сэнс?

— І не кажыце, — уздыхае жанчына ва ўзросце. — Стольбкі клопату, столькі нерваў, а навошта? Сама не разумею, чаму мы сюды пабеглі, але ж гімназія ўсё ж. Хаця якая гімназія — дзеці ж цяпер і там, і там аднолькавыя.

— Настаўнікі розныя.

— Дый настаўнікі аднолькавыя. Але ж во сядзім. А навошта? Раней хаця б разумелі, навошта ўсё. Цяпер не разумею.

Мы набіраем у гімназію ў поўнай адпаведнасці з літарай закону. Ніякіх там на месцы зладжаных рэйтынгаў, балаў атэстатаў, льготаў і іншага. У агульнай чарзе стаяць і настаўнікі-бацькі, супрацоўнікі гімназіі — роўныя правы ва ўсіх. Але ж адчуваецца ва ўсім гэтым агульная разгубленасць. Роўныя правы — ва ўсіх, але ж кожнаму хочацца, каб не зусім ужо былі яны роўныя. Каб была ўсё ж гімназія. Нейкія асаблівыя дзеці ў класе, асаблівыя педагогі. Каб было дзеля чаго на золку ўставаць — як мінімум.

— Не, ну а што, — працягвае мужчына ў шлёпках. — Калі маё дзіця хоча вучыцца, а нейкае не хоча, дык яны ж павінны ў розныя школы хадзіць. Аднаму адно, другому другое. Адзін во няхай на лыжах бегае, футбол там які. А другі матэматыку дзяўбе. Усе ж розныя.

— Гэта яны дома ў нас розныя. Тут усе будуць аднолькавыя.

Паціху ўздыхаюць і настаўнікі. У мінулым годзе мы набралі моцныя пятыя класы, але ж сярод амбітных, добра падрыхтаваных дзяцей сядзяць і тыя, чые бацькі — больш трывалыя ў сэнсе ранішніх чэргаў. Цэлы год гэтыя дзеці правялі ў сітуацыі катастрафічнага ўціску чужой паспяховасці, чужой падрыхтаванасці, чужых амбіцый. Яны не цягнуць гімназічны ўзровень, які пакуль яшчэ трывае. А калі не цягнуць — значыцца, трэба знішчыць гэты ўзровень. Каб было ўсё роўна для ўсіх. Моцны дзіцёнак можа целяпаецца следам за слабым. Слабы бегчы за моцным не можа. Значыцца, ахвяруем моцным.

— Усім блага зрабілі. Бацькам блага, дзецям блага, настаўнікам блага. Ну камусьці ж павінна гэта быць добра? — заглыбляецца ў філасофію мужчына ў шлёпках. — Гэта ж усё ж разумныя людзі прыдумалі, іспыты адмяніць. Камусьці ж добра ад гэтага.

І сапраўды, здзіўляюся я моўчкі. Калі прыдумалі — дык камусьці ж павінна быць добра? Нехта ж кіраваўся нейкімі добрымі намерамі? Можа, дзяржаўнаму бюджэту добра, ці, можа, слабым дзецям добра, ці, можа, агульны ўзровень адукаванасці ад гэтага ўсяго неяк расце — ну нешта ж павінна паляпшацца? Ці там нерваў менш сталі страчваць бацькі? Ці, можа, настаўнікам псеўдагімназій стала сорамна і сталі працаваць лепш? Я не ведаю.

Я толькі бачу, што ўсім блага.

Але, пэўна, надта абмежаваны мой гэты погляд школьным калідорам, у якім медытуюць на лавачках трывалыя беларускія бацькі.

**Блогі «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Расійскі міністр беларускіх унутраных справаў

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Беларуская паліталагічная загадка: чаму апошнія 20 гадоў міністрамі ўнутраных справаў становяцца выключна небеларусы па паходжанні? Адказ, напэўна, ёсць, але ведае яго толькі адзін чалавек — той самы, хто міністраў і прызначае.**




Новапрызначаны кіраўнік МУС Юрый Календ Караеў паходзіць з Паўночнай Асеціі (уваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі), а ў Беларусь прыехаў яшчэ за савецкім часам. І хоць у новага міністра яшчэ не было часу засвяціцца ў нейкім скандале, як гэта любіў рабіць яго папярэднік Ігар Шуневіч, ужо ўсплылі некаторыя падрабязнасці, па якіх можна меркаваць, што вялікіх сентыментаў да беларушчыны Юрый Караеў не мае.

Так, вядомы чэмпіён свету па тайскім боксе беларус Віталь Гуркоў апублікаваў гісторыю, як Юрый Караеў, калі стаў старшынёй Федэрацыі муай-тай і кікбоксінга, вымусіў спартоўца сысці з беларускай каманды. З-за фотаздымка ў інтэрнэце, на якім баксёр пазіруе з капай з вывай «Пагоні», у федэрацыі спартоўца назвалі ворагам і абвінавацілі ледзь не ў экстрэмізме. У выніку Віталь Гуркоў звольніўся з каманды па сканчэнні кантракта. І хоць кожны другі, калі не кожны першы каментатар пад навінамі пра прызначэнне Караева звяртае ўвагу на ягонае расійскае паходжанне, гэта не адзінае, што засмучае ў асобе і ў працы новага міністра.

Прыцягвае ўвагу і ягоная, так скажам, спецыялізацыя — Караеў камандаваў навучальным батальёнам вайсковай часткі ўнутраных войскаў 3214 (спецназ), вайсковымі часткамі 5527 і 5522, палком мінскага спецназа, вайсковай часткай спецназа, а ў 2012 годзе ўзначаліў унутраныя войскі. Напрамак відавочны — сілавы, а там найбольш цэніцца дысцыпліна, падпарадкаванасць, адданасць начальніку. Адзін з лідараў партыі АГП, былы міліцыянт Мікалай Казлоў у інтэрв'ю журналістам ужо выказаў перасцярогу, што Беларусь можа ператварыцца ў адну вялікую зону, і што асабіста яго палохаюць людзі, якія выходзяць у міністры з унутраных войскаў — маўляў, гэта не праваахоўнікі, а карнікі.

Што ж, калі Караеў сапраўды пастаўлены, каб навесці парадак, беларускай грамадзянскай супольнасці прыйдзецца зусім не лёгка. Хаця, вядома ж, не ён у выніку прымае рашэнні.

Не такімі заўважанымі (хоць ад гэтага яны і не змяншаюцца ў сваёй значнасці) прайшлі ў СМІ дзве навіны з адукацыйнай сферы. Гісторыя першая: студэнты БДУ паскардзіліся журналістам на дэканат, які прымушае іх пераздаваць сесію пасля таго, як навучэнцы адмовіліся ад валанцёрства ў «Еўрапейскіх гульнях». Маўляў, дэканат, улічыўшы валанцёрства, паспрыяў выстаўленню ўдвая вышэйшых адзнак па прадметах, а студэнты, бачыце, падводзяць універсітэт.

Гісторыя другая: у самай вядомай сталічнай беларускамоўнай гімназіі №23, якая сярод іншага славілася і тым, што там не прымушаюць уступаць у піянеры ды БРСМ, выпадкова выявілі падлог. Апынулася, што ў спісах БРСМ лічыліся школьнікі, якія ніколі туды не ўступалі, і нават стаялі «іх» подпісы ў ведамасцях за здадзеныя ўнёскі. Дырэкцыя школы ўсклала ўсю віну на аднаго педагога-арганізатара, але ў бацькоў з'явіліся вялікія сумневы, што ў гэтай аферы быў задзейнічаны толькі адзін педагог, і што гэта разавая памылка, а не сістэмная з'ява.

Навіны зусім розныя, але што іх яднае? Абедзве гісторыі — гэта цудоўныя характарыстыкі цяперашняй сістэмы адукацыі. Сістэмы хлуслівай, паказушнай, крывадушнай. І ад такіх навін не менш боязна, чым ад прызначэння Караева міністрам, бо гэтыя несумленныя людзі штодня працуюць з дзецьмі, вучаць іх, уплываюць на фарміраванне іх асобаў, урэшце дзеці бяруць з іх, як і з любых дарослых, прыклад. Які ж прыклад можна ўзяць з супрацоўніцы дэканата (не апошні чалавек ва ўніверсітэце!), што падгаворвае выкладчыка паставіць вышэйшы бал студэнтцы, якая будзе раздаваць сасіскі замежным гасцям у сталоўцы?

Ну і трохі аптымістычнага. Брэсцкі аблвыканкам нарэшце зразумеў, што не можа другі год хавацца ў бульбу (ці ў клубніцы) і рабіць выгляд, што пратэстаў супраць запуску акумулятарнага заводу не існуе, і нарэшце пагадзіўся на сустрэчу з актывістамі. На сустрэчы чыноўнікі агучылі магчымасць спынення ўвядзення завода ТАА «Ай Паўэр» у эксплуатацыю. Відавочна, такой сустрэчы паспрыяла злітая ў сацсеткі запіска абласнога прыродаахоўнага камітэта ў аблвыканкам, у якой гаварылася пра значнае перавышэнне нормаў выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра. Брэсцкія ўлады ўзялі тыдзень, каб праверыць парушэнні, зафіксаваныя актывістамі, і абяцалі на наступным тыдні вынесці рашэнне пра далейшую працу завода.

Тым часам, працаўнікі будаўніцтва завода не расслабляюцца і працягваюць кругласутачнае дзяжурства, а ў нядзелю збіраюць людзей на традыцыйнае кармленне галубоў на цэнтральную плошчу Брэста. Магчыма, да іх далучыцца і кіраўніцтва завода, якое ўсхвалявалася з нагоды перспектывы закрыцця прадпрыемства? Дырэктар ТАА «Ай Паўэр» Сяргей Мельнікові паспавёў журналістам, што, паколькі прадстаўнікі завода маюць такія ж правы, як і пратэстоўцы, калі справа дойдзе да закрыцця завода, яны таксама выйдуць і будуць пратэставаць.

Цікава толькі, ці ў курсе Сяргей Мельнікові, што праціўнікаў акумулятарнага заводу апошнія паўтара года бесперапынна штрафавалі, садзілі «на суткі», ціснулі на сваякоў і сяброў, — і ці згодны ён хоць на мінімальную ахвяру дзеля свайго сумнеўнага прадпрыемства?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксей Марачкін



**Вядомы мастак напісаў праект «Антыкамуністычнага маніфесту», сабраў групу аднадумцаў і заклікаў правесці форум, які асудзіў бы злачынствы камунізму.**

Мастак і грамадскі дзеяч Аляксей Марачкін узначаліў групу па стварэнні грамадскай ініцыятывы «За Маскоўскі Нюрнберг: Аб асуджэнні маскоўскага камунізму». На абмеркаванне прапанаваны план дзеянняў і праект маніфесту, у якім Алесь Марачкін выклаў свае ідэі па дэкамунізацыі Беларусі.

«Нам вельмі патрэбная дэкамунізацыя грамадства, мы бачым, што без гэтага працэсу Беларусь не зможа развівацца ў бок дэмакратыі, — кажа Аляксей Марачкін пра мэты ініцыятывы ў інтэрв'ю «Свабодзе». — Краіна зайшла ў тупік, бо своечасова не адмовілася ад камуністычнай спадчыны, мы не асудзілі камунізм як палітычную з'яву, не правялі суду над вінаватымі ў камуністычным тэроры, у такіх жудасных з'явах, як масавыя расстрэлы невінаватых у Курапатах. Але мы і самі не пакаяліся ў тым, што маўчалі і не супраціўляліся камуністычнаму тэрору. На першым месцы мусіць быць дэкамунізацыя палітычнага жыцця, а ўжо потым — люстрацыя ды іншыя захады пакарання».

Паводле Марачкіна, ідэя назвы — «За Маскоўскі Нюрнберг» — узятая з артыкула вядомага расійскага гісторыка, былога прафесара Маскоўскага ўніверсітэта Андрэя Зубава, які ў 2016 годзе выказаўся за тое, каб у Расіі прайшоў свой Нюрнберг.

Грамадскую ініцыятыву, якую прапанаваў мастак, падтрымалі палітыкі, навукоўцы, дзеячы культуры. Аляксей Марачкін кажа, што гэтая прадстаўнічая і аўтарытэтная група праз падпісанне ягонага «антыкамуністычнага маніфеста» будзе павялічвацца. Спіс тых, хто яе падтрымаў, будзе змешчаны ў інтэрнэце.

Тых, хто далучыцца да ініцыятывы, паводле Аляксея Марачкіна, восенню 2019 года збяруць на першы ў Беларусі форум грамадскай ініцыятывы «За Маскоўскі Нюрнберг: Аб асуджэнні маскоўскага камунізму».

## Уладзімір Каранік

**Перад новапрызначаным міністрам аховы здароўя пастаўлена задача выкаранення карупцыі ў сістэме. Але ці зможа ўчорашні галоўны ўрач зламаць сістэму, якая фармавалася столькі гадоў?**



Да свайго прызначэння міністрам Уладзімір Каранік займаў пасаду галоўнага лекара УЗ «Мінскі гарадскі клінічны анкалагічны дыспансер». На дзвярах яго кабінета вісела абвестка, што адлюстроўвала яго стаўленне да рознага роду даніны: «Уваход з торбамі і пакетамі забаронены».

Пачатая КДБ маштабная антыкарупцыйная распрацоўка Міністэрства аховы здароўя падкасіла вельмі многіх. Ці здолее новы міністр яе пераадолець, пакажа час.

## Сяргей Пятрухін



**Суддзя Ленінскага раённага суда Брэста Аляксандр Семянчук пакараў блогера Сяргея Пятрухіна штрафам у памеры 30 базавых велічынь (765 рублёў) за парушэнне артыкула аб «дробным хуліганстве» (17.1 КаАП).**

Падставай для складання пратакола стала нібыта абраза намесніка начальніка Ленінскага РУУС Брэста Мікалая Самасюка. На судзе Самасюк патлумачыў, чым менавіта яго абразіў Пятрухін. Аказалася, што блогер «уназойлівай форме» прасіў Самасюка, які ў той момант знаходзіўся пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, прыняць заяву аб адміністрацыйным правапарушэнні. Мікалай Самасюк палічыў такія паводзіны Пятрухіна недапушчальнымі і выклікаў на яго АМАП.

Сяргей Пятрухін, у сваю чаргу, на судзе заявіў, што Самасюк, карыстаючыся сваім службовым становішчам, выкарыстоўвае адміністрацыйны рэсурс у асабістых мэтах. І таму Пятрухін мае намер прыцягнуць міліцыянта да крымінальнай адказнасці за перавышэнне службовых паўнамоцтваў.

У выніку суддзя Аляксандр Семянчук стаў на бок Мікалая Самасюка і прызнаў Пятрухіна вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння.

# Вайсковыя могілкі: як знішчаюць унікальны гістарычны ландшафт

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ва ўсім свеце гістарычныя могілкі прываблліваюць турыстаў не толькі імёнамі пахаваных там выбітных асобаў, але і сваёй непаўторнай атмасферай. Але беларускія некропалі могуць яе страціць. Прыклад таму — добраўпарадкаванне Вайсковых могілак у Мінску, якое пераўтварае гісторыка-культурную каштоўнасць другой катэгорыі ў пляскаты палігон.**




Год таму гісторык і экскурсавод Павел Каралёў зазірнуў на мінскія Вайсковыя могілкі і ўбачыў, што рабочыя пачалі зносіць помнікі. Тады яму паабяцалі, што каштоўныя надмагіллі і агароджы чапаць не будуць. Калі ён зайшоў на могілкі пазней, убачыў, як рабочыя пілуюць балгаркай адну з самых прыгожых агароджаў на магіле прафесара Выдрына. Цудам пілаванне ўдалося спыніць, і агароджу ў выніку адстаялі і прывялі ў парадак. З гэтага моманту пачалася абарона могілак ад татальнай зачысткі, якую з ініцыятывы царквы Аляксандра Неўскага пачаў праводзіць Спецкамбінат КБА.

## Туі, мармур і «бульвар»

Толькі за першы тыдзень чэрвеня мінулага года Спецкамбінат дэмантаваў сотню надмагілляў, многія з якіх былі ў даволі добрым стане. Усяго было знішчана каля 300 надмагільных помнікаў. Пры гэтым усе дзяржустановы сцвярджалі, што працы праводзяцца на законных падставах. І толькі пракуратура здолела іх спыніць, зазначыўшы, што на некропалі «патрабаваліся толькі работы па фарбаванні альбо ліквідацыі нязначных пашкоджанняў», а не татальная чыстка.

Гэта надало моцы валанцёрам, якія за мінулае лета прывялі ў парадак каля 150 помнікаў. Яшчэ адной перамогай стаў суд супраць Спецкамбіната сваякоў пахаваных на Вайсковых, чые магілы пацярпелі ад «добраўпарадкавання». Аднак трывожным званочкам тады прагучалі словы юрыста ўстановы Валерыя Жука аб тым, што для добраўпарадкавання могілак праектнай дакументацыі не патрабавалася, але цяпер яна распрацоўваецца, і плануецца знос яшчэ большай колькасці надмагілляў.

Для грамадскасці праект добраўпарадкавання пакуль што — загадка. Абаронцам некропаля ўдалося толькі паразмаўляць з чалавекам, які займаецца яго распрацоўкай. Гэта галоўны архітэктар праектаў УП «Мінскпраект» Мікалай Дзятко, аўтар помніка вайскоўцам, што загінулі ў гады Першай сусветнай вайны. Па словах Паўла Каралёва, архітэктар мяркуе прыбраць з Вайсковых могілак агароджы і замяніць аўтэнтычныя аб'екты на мармуровыя элементы.

Мяркуецца, што гэты праект — дэталёвае ўвасабленне канцэпцыі па добраўпарадкаванні Вайсковых могілак, зацверджанай Міністэрствам культуры напрыканцы мінулага года. Да гэтай канцэпцыі ў валанцёраў і адмыслоўцаў у сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны ёсць шэраг нараканняў.

Так, яна прадугледжвае замену агароджы могілак. Мінкульт ужо зацвердзіў адзін з відаў брамы з барэльефамі, якія вельмі нагадваюць выявы з абеліска на Плошчы Перамогі.

Таксама плануецца пабудаваць новую браму з боку вуліцы Берасцянскай, дзе яе ніколі не было. Але абаронцы лічаць гэта недарэчным на гістарычных могілках.

А вось ідэя аднаўлення гістарычнай брамы выклікала ў валанцёраў ухваленне.

Згодна з канцэпцыяй, тэрыторыя некропаля падзеленая на чатыры зоны, кожную з якіх будуць рэканструяваць па-рознаму. І ў гэтым, на думку Паўла Каралёва, галоўная хіба канцэпцыі: няма цэласнага падыходу да добраўпарадкавання могілак.

Вялікія пытанні ў абаронцаў да прадугледжанага канцэпцыяй пракладання новых тратуарных дарожак. Калі ўжо і рабіць сцежкі на гістарычных могілках, то пясчаныя ці земляныя «навукова» сцежкі з інфармацыйнымі шыльдамі аб пахаваннях паабапал — гэта дапамагло б захаваць ландшафт і развіць турыстычны патэнцыял некропаля.

Замест дрэваў канцэпцыя прадугледжвае высадку кветак, блакітных ялін і пірамідальных туй. Але такім чынам гістарычны ландшафт могілак апынецца пад пагрозай.

— Рэканструкцыя «па-багатаму» апраўдваецца тым, што могілкі вядомыя як вайсковыя. Але, паводле падлікаў Спецкамбіната, з 8253 пахаванняў толькі 745 належаць вайскоўцам, гэта 9 працэнтаў ад усіх пахаванняў. Таму гэта звычайныя гарадскія могілкі. Ніхто не аспрэчвае подзвіг вайскоўцаў, але трэба рабіць правільныя акцэнты, — зазначае Павел Каралёў.

А ля царквы мяркуецца стварыць «бульвар», каб было зручней ладзіць хросныя хады. Цяпер ім замінаюць каляцаркоўныя пахаванні. Спадзяванні, што іх захаваюць, набліжаюцца да нуля…

## Што можна зрабіць

У сваю чаргу, апроч крытыкі, валанцёры падрыхтавалі некаторыя рэкамендацыі па ўпарадкаванні Вайсковых могілак. Па-першае, неабходна аднавіць крыжы на сапсаваным (што пацверджана Генпракуратурай) Спецкамбінатам участку. Па-другое, адмовіцца ад падгалоўнікаў. Яны ўжо традыцыйна, у тым ліку ў Беларусі, ужываюцца на вайсковых пахаваннях, але некарэктна глядзяцца на цывільных. Па-трэцяе, уважліва ставіцца да ўсіх помнікаў, нават да тых, што выглядаюць простымі, — гэта не нагода іх зносіць. Агароджа, зробленая з водаправодных трубаў, ці крыж з заводскіх шасцяронак, які бацька змайстраваў для свайго сына, — таксама адметныя і з'яўляюцца прыкметамі свайго часу. Увогуле, Вайсковыя могілкі — цэлая лабараторыя для даследаванняў сацыяльна-дэмаграфічнай структуры насельніцтва і моўных ды мастацкіх асаблівасцяў 1920–1950-х гадоў.

Вядома, многія магілы заслугоўваюць лепшых помнікаў, як, напрыклад, нядаўна адкрытае пахаванне мастацтвазнаўцы і гісторыка архітэктуры Івана Хозерава. Але гэта павінна абмяркоўвацца з грамадскасцю.

Валанцёры прапануюць праекцыроўшчыкам скарыстацца замежным досведам. Напрыклад, узяць на ўзбраенне прыклад добраўпарадкавання на могілках Росы ў Вільні. Там да 2020 года адновяць 6 капліц, больш за 340 надмагілляў, агароджу вакол некропаля, паправяць дарожкі і ўсталююць відэаназіранне. Альбо паглядзець на некранутыя берлінскія габрэйскія могілкі, якія могуць увесці ў роспач супрацоўнікаў Спецкамбіната. Некропаль з часам пераўтварыўся ў экзону, дзе жывуць 600 відаў раслін, жывёл і птушак. Гэта закансерваваная экасістэма, якую ўжо нельга кранаць. Альбо ўвесці сталую пасаду рэстаўратара, як на Маластранскіх могілках у Празе.

Сярод прапаноў таксама — уключэнне Вайсковых могілак у турыстычныя маршруты, выкарыстанне іх як адукацыйна-даследчыцкай пляцоўкі для школьнікаў і навукоўцаў.

Валанцёры гатовыя не толькі крытыкаваць, але і супрацоўнічаць са Спецкамбінатам у рэалізацыі сваіх прапаноў.

## Адчуваць персанальную адказнасць

На думку прадстаўніка Беларускага камітэта Міжнароднай Рады па помніках і памятных мясцінах (ICOMOS) Цімафея Акудовіча, асноўная праблема добраўпарадкавання Вайсковых могілак палягае ў тым, што ніхто не ведае, як падступіцца да гістарычных некропаляў, няма агульнага бачання, як гэта трэба рабіць. Беларускі камітэт ICOMOS спрабуе сабраць кансіліум спецыялістаў у сферы аховы помнікаў, каб зрабіць зварот у дзяржаўныя інстанцыі па абароне Вайсковых могілак, і па рэканструкцыі гістарычных некропаляў увогуле.

— Вайсковыя могілкі — гэта першы прыклад маштабнай рэканструкцыі могілак у Беларусі, і ён стане прыкладам для астатніх, — зазначае Цімафей Акудовіч.

Ён падкрэслівае, што гэты некропаль — унікальны прыклад могілкавага гістарычнага ландшафту ў Беларусі, і таму да яго павінна быць асаблівае стаўленне. Таму ICOMOS вылучыў чатыры асноўныя пункты, якія ўвойдуць у зварот да дзяржаўных органаў.

Найперш — гэта катэгарычная адмова ад масавага выкарыстання падгалоўнікаў, бо яны кардынальна змяняюць знешні выгляд могілак. Традыцыйна гістарычныя могілкі Беларусі з XII стагоддзя маюць вертыкальную накіраванасць, якую ўзмацняюць крыжы, стэлы, абеліскі. Гэтую адметнасць неабходна захаваць.

Другое — гэта агароджы. Традыцыя іх выкарыстання пачала развівацца ў XIX стагоддзі, цяпер яна знікае, і логіка гэтага працэсу зразумелая. Але тым больш важна захаваць прыклад гэтай традыцыі на Вайсковых могілках.

Трэцяе — дрэвы, традыцыйная з'ява беларускіх могілак. У зацверджанай Мінкультам канцэпцыі іх плануюць замяніць на туі, і гэта непакоіць, бо на гістарычных помніках важна захаваць традыцыйныя віды дрэваў.

Чацвёртае — няма сэнсу ў замене і пракладанні новых сцежак на могілках. А вось такія формы, кшталту кветнікаў, наадварот, вартыя ўвагі, бо менавіта ў дробязях захоўваецца гісторыя.

На думку актыўнай удзельніцы валанцёрскіх працаў на Вайсковых, пісьменніцы і даследчыцы літаратуры Ганны Севярынец, неабходна такім чынам звяртацца да чыноўнікаў, каб яны адчувалі сваю персанальную адказнасць за знішчэнне спадчыны. Толькі тады ёсць шанец нешта захаваць.

## Тэхніка ездзіла наўпрост па помніках

Вайсковыя могілкі — не першы прыклад пераўтварэння гістарычнага месца пахаванняў у засеяны пляскатымі падгалоўнікамі безасабовы палігон. Раней ідэя Спецкамбіната КБА была рэалізаваная ў 2012 годзе на могілках у Крупцах — колішняй вёсцы, а цяпер мікраараёне ля Драздоў.

Тады на абарону некропаля стала супрацоўніца Інстытута гісторыі НАН Юлія Латушкова, у якой на крупецкіх могілках пахавана тры пакаленні продкаў. Яшчэ ў 2007 годзе тут можна было ўбачыць парэшткі пахавальні мясцовых землеўласнікаў. Іх збіраліся рэстаўраваць і будаваць капліччку, але раптоўна на магілах з'явіліся аб'явы аб неабходнасці прывесці іх у належны выгляд — такія самыя, як пазней на Вайсковых. Па словах Юліі Латушковай, стасункі са Спецкамбінатам праходзілі пад знакам ілжы. Увосень 2011 года на цвінтары з'явіліся сляды ад зрэзаных крыжоў. А потым прыйшла тэхніка, якая ездзіла наўпрост па помніках.

У выніку сямейнікі Юліі арганізавалі дзяжурствы на могілках, і ім удалося адстаяць свае помнікі. Але на агульную сітуацыю гэта не моцна паўплывала. На старых могілках, дзе немагчыма было ступіць, каб не стаць на магілу, раптам з'явіліся сцежкі. А да восені 2012 года могілкі ўжо пакрылі падгалоўнікі. Цяпер там голае поле, падгалоўнікі ўраслі ў зямлю.

— Чаму пахаванні XIX–XX стагоддзяў павінны быць прыведзеныя ў адпаведнасць з нормамі закона XXI стагоддзя? Можа, тады і старажытныя курганы трэба прывесці да «належнага выгляду»? — абураецца Юлія Латушкова.

Яна перакананая, што на могілках неабходна правесці музеефікацыю, важна захаваць іх як адзіны комплекс, і недапушчальна змяняць выгляд некропаля, сыходзячы са сваіх эстэтычных упадабанняў.

## Патрэбная агульная канцэпцыя

Былы начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі лічыць няправільным тое, што ўсе дзеянні на Вайсковых могілках ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з законам аб пахаваннях. Гэты некропаль з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, у першую чаргу тут павінна выконвацца заканадаўства аб ахове спадчыны. Ігар Чарняўскі мяркуе, што трэба стварыць групу з 3–5 чалавек, якая б стварыла канцэптуальныя падыходы па ахове могілак у Беларусі. Магілы павінны захоўвацца ў той традыцыі, якая панавала ў час пахавання.

Цімафей Акудовіч дадаў, што падобная камісія будзе стварацца пры камітэце ICOMOS.

# Калі змаганне за зуб мае сэнс і перспектыву

Алена ЦЕРАШКОВА

**Мы працягваем публікаваць парады сківічна-тваравага хірурга, якія, магчыма, будуць карысныя нашым чытачам.**

Як гэта не дзіўна, але па кожным пытанні грамадства мае не меней як два меркаванні, а найчасцей — значна больш. Не выключэнне і сітуацыя з выдаленнем зубоў. Крывая размеркавання пазіцый шырока раскінулася: ад «выдаляйце, я лепей новы ўстаўлю» з нагоды дэфекту пломбы да «не, я паспрабую зуб выратаваць» пры флегмоне дна рота і пагрозе прарыву гною ў сардэчную сумку.

Вядома, беларускае заканадаўства гарантуе, што да моманту абвяшчэння смяротнага прысуду кожны грамадзянін мае права памерці самастойна, у тым ліку і ад зубоў і звязаных з імі праблем, адмовіўшыся выдаляць вінаваты орган. Таму далейшы тэкст — для тых, хто жадае разабрацца ў пытанні пры дапамозе логікі і элементаў медычных ведаў.



**Пра аўтара:**
Алена Церашкова – сківічна-тваравы хірург з амаль 20-гадовым стажам. Час ад часу яна дзеліцца актуальнай інфармацыяй, датычнай стаматалагічнага здароўя, траўмаў і запалення сківічна-тваравай вобласці.

## Ідэал і паталогія

Прырода запланавала для кожнага два шэрагі зубоў, у якіх зубы стаяць «плячо ў плячо» ад краю да краю сківіцы, і кожны зуб (за выключэннем ніжніх цэнтральных ды верхніх кутніх) мае кантакт з двума зубамі супрацьлеглай сківіцы, прычым бугры і ямкі ўзаемна дапасуюцца, як ключык да замка. Кожны зуб — гэта каронка, якую мы бачым у роце, і корань, які сядзіць у сківіцы, і гэты корань удвая даўжэйшы за каронку, каб зуб вытрымліваў усе магчымыя функцыянальныя нагрузкі годна і эфектыўна.

Паталагічныя працэсы, што вядуць да страты зубоў, бываюць трох відаў:

- вострая траўма накшталт удару ў зубы\сківіцу ці падзення на зубы;
- несвоечасова ці некваліфікавана лечаны карыес і яго ўскладненні;
- расхістванне зубоў праз хваробы апорных тканак, калі зуб высоўваецца з косткі ці костка вакол зуба рассмоктваецца.

Асабняком стаяць зубы мудрасці, якія ў дадатак маюць уласныя асаблівасці прарэзвання, але нярэдка фігуруюць і ў трох згаданых катэгорыях.

## Паказанні для выдалення

У кожнай катэгорыі паталагічных працэсаў ёсць зубы, якія варта ратаваць, і зубы, з якімі варта развітацца.

Неадкладна і адназначна мусяць быць выдаленыя зубы, якія ўяўляюць пагрозу для агульнага здароўя чалавека.

Найперш гэта зубы, праз якія развіліся гнойныя запаленчыя працэсы мяккіх тканак твару і шыі, а таксама — прычынныя зубы ў выпадку запалення сківічнай косткі. Вылечыцца без выдалення зуба ў такім разе немагчыма, зацягванне з выдаленнем ставіць пад пагрозу жыццё, у лепшым выпадку — узнагародзіць вас хранічным запаленнем сківічнай косткі, якое будзе гадамі ўкладваць вас у лякарню штовесну і штовосень ды пакідаць на памяць знакі ад разрэзаў і свішчоў.

Другое месца належыць зубам, якія замінаюць вашым ныркам, суставам ды сэрцу, а таксама з'яўляюцца перашкодай да планавай аперацыі.

Выпадак з маёй практыкі. Чалавек захварэў на эндакардыт — цяжкую сардэчную хваробу. Тэмпература пад трыццаць дзевяць на фоне ўнутрывеннага ўвядзення антыбіётыкаў цягам тыдня ў прымусіла ўрэшце кардыёлагаў зазірнуць пацыенту ў зубы і паклікаць стаматолага. У першы дзень пацыенту выдалілі 4 ці 5 разбураных карыесам зубоў. Ужо ўвечары тэмпература была каля 37,5. Праз два дні выдалілі яшчэ некалькі зубоў — тэмпература нармалізавалася, санацыю завяршылі трэцім захадам, пацыент адужаў і быў выпісаны на амбулаторнае лячэнне.




**Самае павучальнае ў гэтай гісторыі, што апошнія некалькі гадоў зубы ў роце ціхенька разбураліся, але не балелі, і пацыент цешыў сабе думкай, што зубы ў яго ёсць, пакуль міна хранічнай інфекцыі не спрацавала, ледзьве не выправіўшы нестарога яшчэ дзядзьку да Адама на піва**




Самае павучальнае ў гэтай гісторыі, што апошнія некалькі гадоў зубы ў роце ціхенька разбураліся, але не балелі, і пацыент цешыў сабе думкай, што зубы ў яго ёсць, пакуль міна хранічнай інфекцыі не спрацавала, ледзьве не выправіўшы нестарога яшчэ дзядзьку да Адама на піва.

Наяўнасць хранічнай зубной інфекцыі таксама падтрымлівае рэўматычныя праблемы суставаў і некаторыя хваробы нырак.

Перад кожнай планавай аперацыяй абавязкова саніраваць усе хранічныя інфекцыі, ад карыесу да грыбкоў на пазногцях. Рызыкаваць сэпсісам (заражэннем крыві) не мусяць ні адэкватныя лекары, ні асцярожныя пацыенты.

Трэцяе ганаровае месца належыць зубам-дыверсантам, на каранях якіх пачынаецца і паступова захоплівае ўсё большую тэрыторыю хранічны запаленчы працэс — кіста. Асаблівасць кісты ў тым, што яна моўчкі расце, і рост яе можна спыніць толькі хірургічным шляхам. Калі своечасова не спыніць — дойдзе да разбурэння значнай часткі сківіцы, страты не аднаго, а некалькіх зубоў, хранічнага гаймарыту, паталагічнага пералому сківіцы...

Вось тады думка пра тое, што можна было ўсяго толькі выдаліць адзін зуб і пазбегнуць сур'ёзных праблем, абавязкова наведае ўпартую галаву. Ці толькі не запозна будзе.

## Што можна захаваць

Зубы, вартыя змагання, — гэта байцы, чыя страчаная жавальная эфектыўнасць можа быць аднаўленая без рызыкі пашкодзіць арганізму (пункт 3).

Сфармулюю «Правіла траціны»: можна спадзявацца захаваць зуб, пашкоджаны не больш як на 1\3 даўжыні.

Расшыфроўваецца гэта так. Падзелім зуб на ўмоўныя тры часткі: каронка, каронкавая палова кораня і верхавінкавая палова кораня. Цяпер уявім сабе наступства нялечанага карыесу — гранулёму ці невялічкую кісту на верхавіне зуба. Калі разбураная костка вакол верхавіны ахапіла зубны корань на 1\4 — 1\3 — ёсць спосабы ўратаваць зуб, выдаліўшы сам ачаг інфекцыі. Болей за палову — сэнсу важдацца фактычна няма. Няма сэнсу поркацца і тады, калі, у дадатак да гранулёмы, каронка значна разбураная, альбо дзясна і костка вакол шыйкі аселі. Паважайце фізіку: пры аперацыі корань зуба ўкарочваецца, а «правіла рычага» ніхто адмяніць не ў стане.

Дапусцім, што зуб расхістаўся, корань пачынае агаляцца, дзясна асела, утварыліся косныя «кішэні». Калі верхавінкавая палова ў добрай костцы без ніякіх гранулём, а каронка зуба добра захавалася, ёсць шэраг мераў па спыненні разбурэння косткі і стабілізацыі зуба. Але, зноў жа, сэнс у гэтым будзе толькі тады, калі разбурэнне не дайшло да паловы, а іншыя часткі зуба ў норме.

Калі вы зламалі зуб (адламалася каронка), але дзясна вакол зуба здаровая, «кішэняў» няма, і вакол верхавіны кораня таксама здаровая костка — у вас добрыя шанцы на аднаўленне былой велічы (прынамсі, у аднакаранёвых зубах ротавага «фасада»). Але пратэзіст не стане брацца за аднаўленне зуба, калі корань не ў ідэальным стане.

А калі ўсё ж такі паспрабаваць уратаваць зуб, хворы больш, чым на траціну?

За ўласныя грошы вы можаце спрабаваць амаль бясконца. Можа стацца, ваш зуб прабудзе з вамі яшчэ колькі месяцаў ці нават гадоў. Гэта мае сэнс тады, калі адтэрміноўка патрэбная: напрыклад, расце сківіца, і захаванне зуба — спосаб прафілактыкі парушэння прыкусу, альбо вам праз тыдзень замуж.

Але найчасцей гэта — выкінутыя грошы, асабліва тады, калі пакінутыя «сумнеўныя» зубы — ключавыя для выбару канструкцыі пратэза. Калі, не вытрымаўшы нагрузкі «за сябе і за таго хлопца», зуб здаецца — можа аказацца, што ў «плявашку» выправіцца і ўся прыгажосць, якую вы панасілі пару месяцаў. А значыць, трэба добра падумаць, перш чым ратаваць «шарагоўца Раяна». Не хварэйце.

**Калі, не вытрымаўшы нагрузкі «за сябе і за таго хлопца», зуб здаецца — можа аказацца, што ў «плявашку» выправіцца і ўся прыгажосць, якую вы панасілі пару месяцаў. А значыць, трэба добра падумаць, перш чым ратаваць «шарагоўца Раяна»**



**Грунтоўнае тэарэтычнае асэнсаванне феномену Канстытуцыйнага Суда і яго практычнае ўвасабленне пачаліся тады, калі летам 1990 года стартавала праца над новым праектам Канстытуцыі**

# ЧАС СУДА,
## або Хто стаяў на варце Канстытуцыі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Кантраляваць канстытуцыйнасць нарматыўных актаў — адзін з галоўных абавязкаў Канстытуцыйнага суда. Напрыканцы красавіка гэты дзяржорган адзначыў сваё 25-годдзе — добрая нагода, каб зазірнуць у мінулае і высветліць, пры якіх умовах Канстытуцыйны Суд з'явіўся ў Беларусі.**

### «Новая поза нашей государственности»

У часы позняй «перабудовы» Гарбачова сярод навукоўцаў і юрыстаў даволі папулярнай стала ідэя стварэння такога органа, які стаяў бы на варце самага галоўнага дакумента — Канстытуцыі. Паводле правазнаўцаў, гэты орган у асноўным павінен быў даваць заключэнні наконт таго, ці адпавядае той ці іншы заканадаўчы акт Асноўнаму Закону.

27 кастрычніка 1989 года Вярхоўны Савет Беларускай ССР (па прыкладзе агульнасаюзных народных дэпутатаў) унёс змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю рэспублікі 1978 года: глава 112 замацоўвала Камітэт канстытуцыйнага нагляду ў складзе 11 чалавек: старшыні, яго намесніка і 9 чальцоў *«из числа специалистов в области политики и права»* тэрмінам на 10 гадоў. Пры гэтым персанальны склад Камітэта прапаноўваўся выключна старшынёй Вярхоўнага Савета.

Камітэт атрымліваў істотныя паўнамоцтвы: ён меў права па ўласнай ініцыятыве даваць заключэнні аб адпаведнасці актаў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Канстытуцыі.

Аднак з'яўленне ў Канстытуцыі БССР 1978 года нормы аб Камітэце канстытуцыйнага нагляду было фармальным — хутчэй, данінай модзе. Палажэнні аб Камітэце не былі выдзеленыя ў асобную главу ці раздзел, а былі прапісаныя ў главе аб Вярхоўным Савеце, што выглядала нелагічна. Тым больш, што далей словаў справа не пайшла: Камітэт існаваў выключна на паперы.

Грунтоўнае тэарэтычнае асэнсаванне феномену Канстытуцыйнага Суда і яго практычнае ўвасабленне пачаліся тады, калі летам 1990 года стартавала праца над новым праектам Канстытуцыі. Пытанні, датычныя канстытуцыйнага нагляду, узяла на сябе пастаянная камісія Вярхоўнага Савета 12-га склікання па заканадаўстве на чале з Дзмітрыем Булахавым. Менавіта гэта камісія пачала распрацоўваць адпаведны законапраект. Да працы былі прыцягнутыя высокакваліфікаваныя навукоўцы-юрысты — Міхаіл Пастухоў, Андрэй Вашкевіч, Міхаіл Чудакоў, а таксама практычныя работнікі — Віктар Камянкоў, Алена Дзягілева ды іншыя.

Беларускія заканадаўцы спыніліся на еўрапейскай мадэлі канстытуцыйнага кантролю, дзе існуе спецыяльная ўстанова — Канстытуцыйны Суд. Такую назву, напрыклад, горача адстойваў Міхаіл Пастухоў на пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі 22 траўня 1992 года: *«Конституционный Суд — это новая поза для нашей государственности; это не суд в обычном смысле этого слова: по своему статусу и положению Конституционный Суд примыкает даже больше к законодательным и контрольным органам».*

### Лёд зрушыўся

Праект закона аб Канстытуцыйным Судзе быў унесены ў парадак дня нечарговай адзінаццатай сесіі, якая пачалася 23 сакавіка 1993 года.

Для гэтага Булахаву давялося пераадолець супраціў уплывовых чыноўнікаў, у тым ліку і генеральнага пракурора Беларусі Васіля Шаладонава.

Як і чакалася, вакол законапраекта аб Канстытуцыйным Судзе разгарэліся вострыя дэбаты. Шмат хто з дэпутатаў здзіўляліся (тон тут задавалі Уладзімір Заблоцкі і Алег Трусаў): новай Канстытуцыі няма, а ўжо прапануюць Канстытуцыйны Суд. Дзмітрый Булахаў растлумачыў усё даволі лагічна. Перад нашымі заканадаўцамі, разважаў Булахаў, заўсёды стаяла дылема: спачатку прымаць Канстытуцыю, а потым закон, ці наадварот: спачатку закон, а потым — Канстытуцыю. На думку Булахава, каб *«записать несколько строчек в Конституции, законодатель должен видеть, что за этим стоит»*. Таму лепш спачатку прыняць закон. У выніку за ўнясенне законапраекта аб Канстытуцыйным Судзе ў павестку дня з 246 дэпутатаў, якія бралі ўдзел у галасаванні, прагаласавалі 187 (пры кворуме ў 173).

24 сакавіка 1993 года Дзмітрый Булахаў коратка выклаў асноўныя палажэнні законапраекта, паводле якога Канстытуцыйны Суд абвяшчаўся вышэйшым органам судовай улады па абароне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Былі магчымыя два варыянты выбару суддзяў (абавязкова наяўнасць вышэйшай юрыдычнай адукацыі і пэўных маральных і фізічных якасцяў, межавы ўзрост — 65 гадоў): Вярхоўным Саветам ці паводле прадстаўнічага прынцыпу. Булахаў меркаваў, што кандыдатуры суддзяў могуць прапаноўваць старшыня парламента, старшыня Вярхоўнага Суда і старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда.

Таксама варыятыўным быў тэрмін знаходжання суддзяў Канстытуцыйнага Суда на сваіх пасадах: 10 гадоў альбо бестэрмінова. Законапраект дапускаў паўторнае пераабранне суддзяў на пасаду.

Паводле законапраекта, Канстытуцыйны Суд не меў права па ўласнай ініцыятыве распачаць вытворчасць па справе на адпаведнасць таго ці іншага нарматыўнага прававога акта Канстытуцыі. На пытанне дэпутата Мікалая Серады, чаму так, Булахаў адказаў, што ў адваротным выпадку Канстытуцыйны Суд будзе палітызаваным.

У сваёй прамове Дзмітрый Булахаў закрануў, прынамсі, яшчэ два прынцыповыя моманты. Па-першае, грамадзяне не мелі права непасрэдна звяртацца ў Канстытуцыйны Суд: было дакладна акрэслена кола суб'ектаў. З заканадаўчай ініцыятывай у Канстытуцыйны Суд маглі звяртацца прэзідэнт, старшыня парламента, старшыня Савета Міністраў, генеральны пракурор, старшыня Вярхоўнага Суда, старшыні пастаянных камісій парламента і не менш за 25 дэпутатаў. Па-другое, Канстытуцыйны Суд ажыццяўляў кантроль над дзейным заканадаўствам, то-бок, папярэдні кантроль над законапраектамі не ўваходзіў у яго кампетэнцыю.

У цэлым дэпутацкі корпус даволі лагодна сустрэў законапраект. Калі і мела месца крытыка, дык яна тычылася другасных момантаў: ці абавязковая для суддзі Канстытуцыйнага Суда вышэйшая юрыдычная адукацыя (дэпутат Уладзімір Грыбанаў лічыў, што ў Канстытуцыйным Судзе павінны быць эканамісты, сацыёлагі і іншыя «умудрённые опытом люди»), якімі крытэрамі вызначаць фізічны стан суддзяў і іншае.

Дэпутату Мікалаю Лобачу не спадабалася працэдура прынясення прысягі суддзёй Канстытуцыйнага Суда: ён, стаўшы тварам да Вярхоўнага Савета, мусіў пакласці левую руку на Канстытуцыю, а правую — у вобласць сэрца. «А если рука у судьи упадёт на 45 градусов?» — абураўся Мікалай Серада.

Тым не менш, 25 сакавіка 1993 года законапраект аб Канстытуцыйным Судзе быў прыняты 178 галасамі дэпутатаў пры кворуме ў 173.

Пазней законапраект пастаянна ўдасканальваўся. Чарговы варыянт датуецца 4 лістапада 1993 года. Прынцыповае адрозненне ад папярэдняга заключалася ў тым, што Канстытуцыйны Суд ужо не з'яўляўся органам па абароне Канстытуцыі, а ажыццяўляў кантроль над канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў.

Пасля прыняцця Канстытуцыі Беларусі 15 сакавіка 1994 года зацвярджэнне закона аб Канстытуцыйным Судзе стала тэхнічнай справай. Да гэтага часу праект зноў зазнаў пэўныя змены. І самая галоўная палягала ў тым, што Канстытуцыйны Суд па сваёй ініцыятыве мог распачаць вытворчасць па справе.

Сам закон быў прыняты Вярхоўным Саветам 30 сакавіка 1994 года.

### Першы эшалон

15 сакавіка 1994 года Вярхоўны Савет прыняў закон №2876-XII аб парадку ўваходжання ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Паводле артыкула 4 закона, у месячны тэрмін з дня ўваходжання Канстытуцыі ў сілу мусіў быць створаны Канстытуцыйны Суд. Фармальна, неабходнасць Канстытуцыйнага Суда тлумачылася *«обеспечением безусловного исполнения принятой Конституции Республики Беларусь»*. На самай справе, Вярхоўны Савет вырашыў падстрахавацца і стварыць Канстытуцыйны Суд да прэзідэнцкіх выбараў. У такім выпадку суд мог стаць супрацьвагай кіраўніку дзяржавы: у законапраекце аб Канстытуцыйным Судзе была замацавана норма, паводле якой ён па патрабаванні не менш 70 дэпутатаў парламента меў права распачаць справу супраць прэзідэнта ў выпадку парушэння апошнім Канстытуцыі.

Далей у законе №2876-XII мелася яўная калізія. Справа ў тым, што Вярхоўны Савет 12-га склікання, яго Прэзідыум і старшыня да ўступлення на пасаду прэзідэнта захоўвалі свае паўнамоцтвы згодна Канстытуцыі 1978 года, а пасля ўступлення прэзідэнта на пасаду мусілі ажыццяўляць свае паўнамоцтвы паводле Канстытуцыі 1994 года. Аднак у Канстытуцыі 1978 года прысутнічаў толькі Камітэт канстытуцыйнага нагляду, то-бок, дэпутаты не мелі права абіраць Канстытуцыйны Суд.

Менавіта з такімі аргументамі выступіў на адкрыцці нечарговай Чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета 27 красавіка 1994 года лідар парламенцкай апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк. Ён зачытаў заяву 35 дэпутатаў, у якой ішла гаворка пра незаконнасць стварэння Канстытуцыйнага Суда да выбараў прэзідэнта, тым больш, менавіта прэзідэнт павінен прапанаваць кандыдатуру старшыні.

Парламенцкая большасць усё ж вырашыла давесці справу да канца. З гэтай мэтай 27 красавіка 1994 года спецыяльнай пастановай у Часовым Рэгламенце Вярхоўнага Савета словы «Камітэт канстытуцыйнага нагляду» замяняліся словамі

«Канстытуцыйны Суд». І гэтай жа пастановай замацоўвалася норма (адсутнічала ў законе), паводле якой кандыдатуры суддзяў прапаноўвалі дэпутаты Вярхоўнага Савета (намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Іван Бамбіза настойваў на тым, каб кандыдатуры прапановаў Прэзідыум).

Усяго была прапанавана дзесяць кандыдатур з тым разлікам, што кандыдатуру старшыні прапануе прэзідэнт. Часовы Рэгламент не выключаў таго, каб Канстытуцыйны Суд узначаліла асоба, якая раней была абраная ў склад суда.

Для адбору прэтэндэнтаў была прадугледжана двухступенная мадэль галасавання. Спачатку адбіралі тых дзесяць кандыдатаў, якія пры галасаванні атрымалі простую большасць (рэйтынгавае галасаванне), а затым — уносілі іх у бюлетэні для тайнага галасавання.

На дзесяць вакантных месцаў суддзяў Канстытуцыйнага Суда прэтэндавалі 16 кандыдатаў: 1) Ігар Андрэеў, дырэктар НДІ крыміналогіі, крыміналістыкі і судовай экспертызы; 2) Рыгор Васілевіч, загадчык юрыдычнага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета; 3) Віктар Ганчар, першы намеснік старшыні выканаўчага камітэта Маладзечанскага гарвыканкама; 4) Анатоль Красуцкі, загадчык аддзела пісьмаў Сакратарыята Вярхоўнага Савета; 5) Вячаслаў Любавіцкі, пракурор Брэсцкай вобласці; 6) Аляксандр Марыскін, загадчык сектара камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Сакратарыята Вярхоўнага Савета; 7) Валянціна Падгруша, намеснік міністра юстыцыі; 8) Міхаіл Пастухоў, намеснік начальніка навукова-даследчага аддзела Вышэйшых курсаў КДБ; 9) Сяргей Протас, чалец Гродзенскага абласнога суда; 10) Марына Сатоліна, эксперт Канстытуцыйнай камісіі; 11) Мікалай Серада, намеснік міністра ўнутраных спраў; 12) Ксенія Хома, намеснік старшыні Мінскага гарадскога суда; 13) Валерый Ціхіня, загадчык кафедры права Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў; 14) Станіслаў Цішкевіч, начальнік кафедры расследавання злачынстваў Акадэміі міліцыі МУС; 15) Валерый Фадзееў, загадчык юрыдычнага ўпраўлення кіравання справамі Савета Міністраў; 16) Рыма Філіпчык, чалец Вярхоўнага Суда.

Вынікі рэйтынгавага галасавання былі наступныя: Андрэеў — 142 (галасавалі — 163); Васілевіч — 214 (218), Ганчар — 129 (153); Красуцкі — 94 (130); Любавіцкі — 170 (183); Марыскін — 152 (165); Падгруша — 224 (229); Пастухоў — 162 (183); Протас — 143 (172); Сатоліна — 57 (94); Серада — 189 (197); Фадзееў (наконт яго выказаўся Лукашэнка: «Давайте поддержим человека, а то сидит человек трясется, побледнел весь!») — 208 (213); Філіпчык — 172 (189); Хома — 165 (179); Ціхіня — 231 (234); Цішкевіч — 165 (167).

У выніку ў бюлетэні для тайнага галасавання былі ўнесены: Васілевіч, Любавіцкі, Падгруша, Пастухоў, Серада, Фадзееў, Філіпчык, Хома, Ціхіня і Цішкевіч. Яны мусілі набраць дзве траціны канстытуцыйнай большасці. Улічваючы, што было раздадзена 258 бюлетэняў, кандыдат павінен быў атрымаць не менш за 173 галасы. Вынікі былі такія: Васілевіч — 237; Любавіцкі — 133; Пастухоў — 192; Серада — 187; Фадзееў — 217; Філіпчык — 190; Хома — 191; Ціхіня — 217; Цішкевіч — 183.

Такім чынам, усе прэтэндэнты, акрамя Любавіцкага, 28 красавіка 1994 года былі абраныя суддзямі Канстытуцыйнага Суда. У той жа дзень яны прынеслі ганаровую прысягу.

### Старшыня Ціхіня

Канешне, самым аптымальным было абраць старшыню Канстытуцыйнага Суда непасрэдна з ліку суддзяў. Свой выбар Лукашэнка спыніў на Ціхіню, маўляў, хаця і Васілевіч атрымаў пры тайным галасаванні большасць, тым не менш, і па ўзросце, і па вопыце, лічыў кіраўнік дзяржавы, падыходзіць Ціхіня.

Адыграла ролю і тое, што падчас працы ў Вярхоўным Савеце ў Лукашэнкі і Ціхіні склаліся неблагія адносіны. У прыватнасці, Ціхіня быў адным з нямногіх дэпутатаў, хто 14 снежня 1993 года падтрымаў «антыкарупцыйны даклад» будучага беларускага кіраўніка: ***«Материалы Лукашенко не оставляют равнодушными. В Беларуси появилась своя коза-ностра»***.

23 сакавіка 1995 года Ціхіня па прапанове Лукашэнкі быў абраны старшынёй Канстытуцыйнага Суда. «За» прагаласавалі 220 народных дэпутатаў. У прывітальным выступе Ціхіня заявіў, што ***«никогда не поступится своей совестью»***.

Напачатку Ціхіня апраўдваў надзеі Лукашэнкі. Так, у красавіку 1995 года Канстытуцыйны Суд рашуча адмовіўся разглядаць заяву старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча аб законнасці пытанняў, прапанаваных Лукашэнкам на агульнарэспубліканскі рэферэндум: наданне рускай мове статусу дзяржаўнай і замена дзяржаўнай сімволікі (на пасяджэнні камісіі 14 чэрвеня 1991 года дэпутат Лявон Баршчэўскі заявіў, што новая сімволіка прынятая з парушэннем закона, таму не трэба больш звяртацца ў Канстытуцыйны Суд).

Такая пазіцыя суда была абумоўленая асабістым поглядам Ціхіні, які ў Вярхоўным Савеце крытыкаваў БНФ.

Аднак неўзабаве Ціхіня пачаў разумець, што небяспечным з'яўляецца зусім не БНФ. Пасля правалу выбараў у Вярхоўны Савет 13-га склікання Лукашэнка фактычна пачаў уводзіць непасрэднае прэзідэнцкае кіраванне, прызначаць вышэйшых службовых асобаў без згоды Вярхоўнага Савета.

Канстытуцыйны Суд звярнуўся да такой стратэгіі, як праверка ўказаў кіраўніка дзяржавы на адпаведнасць Канстытуцыі. Толькі ў кастрычніку 1996 года Канстытуцыйны Суд распачаў справу па двух указах: стварэнне кадравага рэестру кіраўніка дзяржавы (лістапад 1995 года) і рэарганізацыя «Народнай газеты» (чэрвень 1996 года).

Канстытуцыйны Суд вельмі непакоіў указ кіраўніка дзяржавы №336 ад 21 жніўня 1995 года (адказ Лукашэнкі на страйк метрапалітэнаўцаў), паводле якога прыпынялася дзейнасць Свабоднага прафсаюза і першаснай прафсаюзнай арганізацыі Мінскага метрапалітэна, а дэпутаты Вярхоўнага Савета пазбаўляліся недатыкальнасці. 8 лістапада 1995 года на падставе спецыяльнага заключэння Канстытуцыйны Суд ануляваў прынцыповыя пункты ўказа.

**Валерый Ціхіня зачытаў у Вярхоўным Савеце пасланне «Аб стане канстытуцыйнай законнасці». З яго вынікала, што галоўным парушальнікам выступіў кіраўнік дзяржавы: 11 з 14 прэзідэнцкіх указаў цалкам ці часткова не адпавядалі Канстытуцыі**



Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1994–1996 гадах Міхаіл Пастухоў



Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1994–1996 гадах Рыма Філіпчык



Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1994–1996 гадах Валянціна Падгруша




Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1996 годзе Міхаіл Чудакоў



Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1996 годзе Андрэй Вашкевіч



«Хросны бацька» беларускага Канстытуцыйнага Суда Дзмітрый Булахаў

Своеасаблівым «рубіконам» ва ўзаемаадносінах Лукашэнкі і Канстытуцыйнага Суда стала праблема паўторных выбараў у Вярхоўны Савет 13-га склікання. 7 верасня 1995 года Вярхоўны Савет 12-га склікання па ініцыятыве Станіслава Шушкевіча і Дзмітрыя Булахава ўнёс змены ў выбарчае заканадаўства, паводле якіх зніжалася (з 50 да 25%) норма ўдзелу грамадзянаў у выбарах. 30 кастрычніка 1995 года спецыяльным заключэннем Канстытуцыйны Суд пацвердзіў гэтыя змены (11 кастрычніка 1995 года Канстытуцыйны Суд пацвердзіў паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета 12-га склікання да пачатку першага пасяджэння сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання).

У сваю чаргу, Лукашэнка распачаў атаку на Канстытуцыйны Суд і Вярхоўны Савет. Ён вінаваціў Ціхіню ў тым, што той нібыта ***«постоянно висит на страницах газет и не вылазит из студий»***. 20 кастрычніка 1995 года на сустрэчы з ветэранамі ў сталічным Доме афіцэраў Лукашэнка назваў Вярхоўны Савет «контрай», якая карыстаецца ўсімі льготамі.

Унутры самога Канстытуцыйнага Суда пачала фарміравацца своеасаблівая «пятая калона» ў асобе суддзі Рыгора Васілевіча, які публічна пачаў рабіць рэверансы ў бок Лукашэнкі. У прыватнасці, Васілевіч раскрытыкаваў рашэнне Канстытуцыйнага Суда ад 30 кастрычніка.

І, каб пазбегнуць магчымых палітычных спекуляцый, Канстытуцыйны Суд змяніў сваю пазіцыю. 22 лістапада 1995 года ён прыняў спецыяльнае заключэнне, паводле якога выбары ў Вярхоўны Савет 13-га склікання павінны былі адбыцца па 50-працэнтнай яўцы.

Калі правамоцны Вярхоўны Савет 13-га склікання ўсё ж быў абраны, Канстытуцыйны Суд паспяшаўся замацаваць перамогу. 22 лютага 1996 года Валерый Ціхіня зачытаў у Вярхоўным Савеце пасланне Канстытуцыйнага Суда «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1995 годзе». З паслання вынікала, што галоўным парушальнікам заканадаўства выступіў кіраўнік дзяржавы: па словах Ціхіні, 11 з 14 прэзідэнцкіх указаў цалкам ці часткова не адпавядалі Канстытуцыі.

Выступленне Ціхіні мела пэўны рэзананс, прымусіла рабіць высновы нават тых дэпутатаў, якія былі лаяльныя да кіраўніка дзяржавы.

Віктар Ганчар эмацыянальна заявіў, што ў Беларусі ***«сложилась могилёвско-шкловская клановая бригада»***, а сам ***«президент растоптал Конституцию, усвоил закон власти тьмы»***.

### Канаплёў і кампанія

31 траўня 1996 года Лукашэнка здзейсніў першую спробу ліквідаваць фактар Канстытуцыйнага Суда. Гэтая аперацыя была даручаная сябру дзяцінства Лукашэнкі, дэпутату Вярхоўнага Савета 13-га склікання, кіраўніку прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» Уладзіміру Канаплёву. У гэты дзень Канаплёў заявіў, што Канстытуцыйны Суд з'яўляецца «однокрылой птицей», таму што яго фарміруе выключна Вярхоўны Савет. На абмеркаванне дэпутатаў Канаплёў вынес змяненні і дапаўненні ў закон аб Канстытуцыйным Судзе, паводле якіх гэты орган павінен быў фарміравацца на парытэтнай аснове: палову суддзяў прапаноўвае кіраўнік дзяржавы, палову — парламент. За прэзідэнтам захоўвалася права прапановы кандыдатуры на пасаду старшыні Канстытуцыйнага Суда.

Канаплёву ўдалося сабраць 40 подпісаў дэпутатаў, якія патрабавалі разгледзець пытанне аб Канстытуцыйным Судзе ў аператыўным парадку.

Дэпутацкая большасць адмовіла Канаплёву. Тады ён і яшчэ 25 яго калегаў у знак пратэсту пакінулі Авальную залу.

Гэтым справа не скончылася. 31 траўня 1996 года на дзве вакантныя пасады суддзяў Канстытуцыйнага Суда былі абраныя Міхаіл Чудакоў і Андрэй Вашкевіч (разам з імі беспаспяхова балатаваліся Дзмітрый Булахаў і дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Павел Знавец).

### Канчатковае рашэнне

Кропку па пытанні Канстытуцыйнага Суда паставіў рэферэндум 24 лістапада 1996 года. Паводле новай рэдакцыі Асноўнага Закона, прапанаванага Лукашэнкам, Канстытуцыйны Суд не меў права па ўласнай ініцыятыве распачынаць вытворчасць па справе. З дванаццаці суддзяў шэсць прызначаў кіраўнік дзяржавы. Ён жа прапаноўваў кандыдатуру на пасаду старшыні. Залежнасць Канстытуцыйнага Суда ад прэзідэнцкай улады стала відавочнай.

Лукашэнка аддзячыў Васілевічу, прапанаваўшы яго на пасаду старшыні Канстытуцыйнага Суда. Вось казаў Лукашэнка на першым пасяджэнні першай сесіі Савета Рэспублікі 13 студзеня 1997 года: ***«Что я хочу сказать о Василевиче. Это единственный человек в Конституционном Суде, который никогда, несмотря на свою молодость, не втянулся в склоки, не втянулся в драки, всегда был на стороне государственности, всегда предостерегал людей, которые работали в Конституционном Суде (постарше его), что нам надо видеть державу»***.

Час Суда скончыўся.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ШВЕЦЫЯ. Карлсан пойдзе ў палітыку?

Аматары творчасці вядомай шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн не на жарт усхваляваныя. Мясцовыя правыя радыкалы, здаецца, вырашылі выкарыстаць для ўласнай рэкламы вобразы герояў твораў Ліндгрэн. Усё пачалося ў мястэчку Вімэрбю — на радзіме пісьменніцы. Менавіта тут лідар праварадыкальнай групоўкі «Alternativ för Sverige» заявіў, што шведы павінны аддаць перавагу Эмілю (папулярны літаратурны персанаж цыклу твораў Ліндгрэн), а не сірыйскаму дзіцяці-імігранту. Пасаж выклікаў вялікі рэзананс, а ўнук Ліндгрэн у фармаце адкрытага ліста нават запатрабаваў ад правадыра «Alternativ för Sverige» адмовіцца ад выкарыстання творчасці яго бабулі ў сваіх палітычных гульнях. Ліст унука з'явіўся ў многіх медыя, і, хоць згаданы радыкал яго праігнараваў, наступствы публікацыя мела. Цяпер грамадскасць заклікае выкарыстоўваць кнігі Ліндгрэн для фарміравання ў дзяцей дэмакратычных поглядаў. Напрыклад, у кнігах пісьменніцы тэма ўцёкаў дзяцей з дому і іх падарожжаў падаецца пазітыўна. На гэтай глебе прапануецца ствараць прыхільнае стаўленне да дзяцей-імігрантаў. Застаецца пачакаць інтэрпрэтацыі прыгод Карлсана.

**Паводле нямецкай прэсы**

### МАЛДОВА. «Птушку шкада»

Апошні час Малдову ліхаманіць. Сітуацыйны блок учорашніх антаганістаў — прамаскоўскіх сацыялістаў і празаходняга альянсу ACUM — выступіў супраць алігарха Плахатнюка, які падмяў пад сябе суды і вертыкаль. Закладнікамі разборак сталі... індыкі. Падчас пратэстаў ля будынка адміністрацыі прэзідэнта-сацыяліста Ігара Дадона аматары Плахатнюка перакінулі праз плот пяць жывых індыкоў. Толькі пасля таго, як пратэстоўцы сышлі, птушак вызвалілі супрацоўнікі аховы. Сімвалічны падтэкст акцыі канчаткова не зразумелы. Некаторыя ўбачылі тут прыём з арсенала сіцылійскай мафіі, якая падкідвае ахвяры дохлую рыбу. Магчыма, Дадону хацелі намякнуць, што ён скончыць, як індыкі, якія часцяком ідуць на святочную вячэру. У любым выпадку, мясцовыя эколагі абурыліся. «Гэтыя дзеянні, учыненыя публічна, дэманструюць бесчалавечнае стаўленне і супярэчаць этыцы і маральным каштоўнасцям у адносінах да жывых істотаў», — гаворыцца ў іх заяве. Акрамя таго, яны патрабуюць прыцягнуць маніфестантаў да крымінальнай адказнасці паводле артыкулу «Жорсткае абыходжанне ці катаванне жывёл». У атмасферы цяперашняй палітычнай катавасіі сумнеўна, што нехта будзе займацца індыкамі, але сама выхадка прыхільнікаў Плахатнюка з птушкамі знешне выглядала так адмоўна, што дакладна не дадала алігарху папулярнасці.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Забаранілі татуіроўкі

Гэтым разам сілавікі ганяюць татуіроўшчыкаў, якім раней негалосна забаранілі весці легальны бізнес. Для пошуку татуіроўшчыкаў выкарыстоўваюць тых, хто меў неасцярожнасць ужо зрабіць сабе малюнак на целе. Людзей з тату затрымліваюць на вуліцы, адводзяць у пастарункі і дапытваюць, высвятляючы, дзе наносіўся малюнак і хто яго рабіў. Афіцыйных каментароў наконт новай кампаніі няма. Хіба што адно з праўладных выданняў апублікавала артыкул пра шкоду татуіровак для мусульман. «У мусульманскіх краінах не знойдзеш ніводнага салона тату. І зразумела чаму: чалавек, які ўпрыгожвае святы храм душы малюнкамі, будзе пракляты. Грошы, якія ён адважыцца ўзяць за такую працу, лічацца скрадзенымі (...). Папулярныя цяпер у Еўропе трансфармацыі цела для любога паслядоўніка ісламу — жахлівы грэх», — піша выданне. Назіральнікі адзначаюць, што ў артыкуле да мадыфікацыяў цела журналісты выдання аднеслі не толькі татуіроўкі, але і пірсінг, а таксама нарошчванне валасоў у жанчын. Таму, хутчэй за ўсё, пад каток рэпрэсій хутка трапяць і касметычныя салоны.

**Паводле туркменскай прэсы**

### КАНАДА. Ці магчымы секс з прэм'ерам?

Навукоўцы бываюць розныя. Напрыклад, чальцы Асацыяцыі франкамоўных вучоных (ACFAS) на сваім чэрвеньскім кангрэсе ў Манрэалі абмяркавалі рознага роду аспекты эксплуатацыі робатаў, якія імітуюць інтымныя адносіны з карыстальнікам. Пры гэтым у навукоўцаў з'явілася ідэя запусціць на рынак партыю робатаў, якія вонкава будуць выглядаць як Джасцін Трудо — цяперашні канадскі прэм'ер. Чаму робат павінен быць падобным да Трудо, а не, скажам, да нейкага вядомага артыста? Не толькі таму, што прэм'ер — малады, у добрай спартыўнай форме і прывабны. На думку навукоўцаў, інтымны кантакт з робатам, які падобны да палітыка, ліквідуе ў карыстальніка комплексы перад уладай і прымусіць задумацца над шматлікімі этычнымі тэмамі. Іншыя лічаць, што нічога, акрамя дыскамфорту і смеху, такая лялька ў ложку не выкліча. У выніку меркаванні падзяліліся. Зрэшты, у чымсьці кансенсус знойдзены: усе пагадзіліся, што для праформы згоду на выраб такога робата павінна даць жонка прэм'ер-міністра.

**Паводле канадскай прэсы**

# На шляху да Галіцкай дзяржавы?

*Алег НОВІКАЎ*




Фота www.fondsk.ru

**Нядаўнія сацыялагічныя апытанні нечакана выявілі агмені сепаратызму ў Заходняй Украіне — гістарычным бастыёне ўкраінскага нацыяналізму.**

У нашумелым серыяле «Слуга народа» ёсць эпізод, калі ўкраінскі прэзідэнт Васіль Галабародзька (яго ролю выконваў Уладзімір Зяленскі) выходзіць з турмы, каб даведацца пра забаўную рэч — за час яго зняволення Украіна, мякка кажучы, трошкі змянілася. На месцы адзінай краіны паўсталі 28 незалежных краінаў. Сярод іх такія фармаванні, як Легітымная Украіна, Шведская Воласць (на месцы Палтаўскай), Янтарная Рэспубліка, Заходняя Джорджыя, Галіцкае Каралеўства і нават Кашэрная Рэспубліка.

Гэты фрагмент серыяла шматлікім украінцам прыйшоў на памяць, калі яны азнаёміліся з дадзенымі красавіцкага апытання Кіеўскага міжнароднага інстытута сацыялогіі (КМІС). КМІС па замове выдання «Дзеркало тижня» правёў апытанне адносна падтрымкі канцэпцыі адзінай украінскай дзяржавы або «ўнітарнасці» ў Заходняй Украіне. Вынікі шакавалі.

Пераканайцеся самі: працэнт жыхароў Закарпацкай вобласці, якія выступаюць за ўнітарную цэнтралізаваную Украіну, за 5 гадоў зменшыўся больш чым у 3,5 раза — з 91,5% у 2014-м да 26% цяпер. У суседняй Чарнавіцкай вобласці аналагічны трэнд: колькасць прыхільнікаў унітарнай Украіны тут таксама скарацілася — з 69,7% у 2014 годзе да 32% у 2019-м.

Нават Галіцыя (Львоўская, Тэрнопальская і Івана-Франкоўская вобласці) выступае за ўнітарную, але дэцэнтралізаваную краіну з большай самастойнасцю рэгіёнаў (40 працэнтаў апытаных). Самае цікавае, што тут узмацніліся ідэі на карысць львоўскай незалежнасці — 4,3% апытаных (у снежні 2014 года «незалежнікаў» было не больш, чым 0,2%). Пры гэтым відавочна, што псіхалагічна насельніцтва прызвычайваецца да магчымасці стварэння Галіцкай дзяржавы.

Колькасць тых, хто адказаў, што «Галіцкая дзяржава не можа быць створаная, паколькі Украіна адзіная», паменшылася з 84,2% у 2014-м да 68,5%. Адзіны пазітыў для патрыётаў — група прыхільнікаў вяртання заходнеўкраінскага краю ў склад Польшчы ўпала з 2,8% у 2014-м да 1,5% цяпер.

Натуральна, дарэчы задаць пытанне: ці не працуюць заказчыкі апытання на знешнія цэнтры? Як і варта было чакаць, у Маскве імгненна пачалі насіцца з дадзенымі КМІС і казаць пра «ласкутнасць» украінскага дзяржаўнага праекта. Пытанне наконт датычнасці Крамля было б слушнае, калі б гаворка не ішла пра «Дзеркало тижня» — на працягу апошніх дзясяткаў гадоў гэта дакладна самае аўтарытэтнае нацыянальнае ліберальнае выданне ў краіне. Дарэчы, адзін з куратараў апытання — намеснік рэдактара газеты Сяргей Рахманінаў, які ўваходзіць у выбарчы спіс партыі «Голас» Святаслава Вакарчука, чый электарат знаходзіцца менавіта ў Заходняй Украіне.

Таму ў лічбы ад КМІС украінская аўдыторыя ў асноўным паверыла. А вось адзінага адказу на пытанне наконт прычынаў сепаратысцкай хвалі на Захадзе краіны няма. Сярод версій — недасканаласць закона аб дэцэнтралізацыі. Запушчаная пару гадоў таму рэформа, якая павінна была ўзмацніць эканамічную аўтаномію на месцах, магчыма, узмацніла рэгіянальныя эліты. Яе прадстаўнікі задумаліся пра яшчэ большае дыстанцыяванне ад цэнтра.

Цэнтрабежныя настроі, безумоўна, узмацняе характэрны для ўсіх краін комплекс правінцыялаў адносна сталіцы, які стымулюе татальная розніца ва ўзроўні жыцця. Калі паглядзець на ўзровень ВУП на душу насельніцтва ў розных рэгіёнах, то ў Кіеве гэты паказчык у шэсць разоў вышэйшы, чым у Тэрнопальскай або Закарпацкай абласцях. А сярэдні заробак адразу ў дзесяці рэгіёнах краіны ў два разы менш за сталічны. Кіеў таксама асацыюецца з бяздушнай бандай чыноўнікаў і бюракратаў, якія штампуюць антысацыяльныя пакеты законаў.

Агучваецца і вельмі незвычайны тэзіс. Нібыта, дзякуючы бязвізаваму рэжыму з Еўрасаюзам у жыхароў Заходняй Украіны абвастрылася еўрапейская ментальнасць. Варшава, Будапешт і Бухарэст сталі для многіх трошкі бліжэй, а, скажам, Харкаў і Адэса — крыху далей.

Так ці інакш, вынікі апытання КМІС б'юць па пазіцыях былога прэзідэнта. Як ні круці, менавіта ў выніку пяцігадовай кадэнцыі Парашэнкі такія словы, як «федэралізм», «рэгіянальная самастойнасць», «аўтаномія», паступова страцілі сваю таксічнасць.

Зрэшты, у атачэнні Пятра Парашэнкі аператыўна прыдумалі сваю трактоўку дадзеных сацыялагічнага зандажу. Там лічаць, што драйверам заходнеўкраінскага сепаратызму з'яўляецца пагроза рэваншу, якую, нібыта, уяўляе туманны курс новага прэзідэнта. Патэнцыйная небяспека таго, што Уладзімір Зяленскі затармозіць дрэйф Украіны ў Еўропу, заканамерна стымулюе пражэкты інтэгравацца ў ЕС на рэгіянальным узроўні.

Нарэшце, ёсць ідэя, што паніка наконт магчымасці АТА ў Львове гіпертрафаваная. Аптымісты адзначаюць, што рабіць глабальныя высновы на базе апытання КМІС нельга. Колькасць рэспандэнтаў даследавання склала ўсяго 800 чалавек. На іх думку, пераважная большасць жыхароў заходніх абласцей пакуль па-ранейшаму звязвае сваю будучыню з адзінай Украінай. Сапраўды, знешне верагоднасць дэзінтэграцыі дзяржавы, выбуху масавай цікавасці да ідэй сепаратызму не прачытваецца.

Песімісты ў адказ прапануюць узгадаць даследаванне 2012 года, праведзенае па замове праграмы развіцця ААН у Крыме. Тады 40 працэнтаў жыхароў паўвострава бачылі сябе ў складзе Украіны. Апынуцца ў складзе Расіі марылі 38 працэнтаў. На Данбасе прарасійская фракцыя ўвогуле не выходзіла за мяжу 10 працэнтаў. Што было пасля — усім вядома.

Пакінем у гэтай спрэчцы апошняе слова за журналістамі з «Дзеркало тижня». Згодна з іх рэзюмэ, «за пяць апошніх гадоў намеціўся рост «антысаборных» настрояў. Калі ўлада будзе і далей ігнараваць гэтую тэндэнцыю, рызыка лёгка трансфармуецца ў рэальную пагрозу».


Фота www.rusvesna.su

# Іншапланецяне існуюць!

Алег НОВІКАЎ

**Амерыканскае выданне «The New York Times» падзялілася сенсацыяй: Пентагон дэ-факта прызнаў наяўнасць іншапланецян і ўжо інструктуе вайскоўцаў, як паводзіць сябе на выпадак кантакту.**

Пытанне, якое найбольш інтрыгуе ва ўсёй гэтай гісторыі: што здарылася нарэшце з амерыканскімі чыноўнікамі і прымусіла іх перагледзець былыя падыходы? Ледзь не з пачатку 1950-х гадоў, калі з'явіліся першыя спекуляцыі пра палёты НЛА, паўстаў негалосны канон, як афіцыйным прэс-сакратарам рэагаваць на такую інфармацыю. Правіла абавязвала спісваць усё на атмасферныя з'явы, паветраныя шары, птушак, аблокі, аптычныя галюцынацыі, у тым ліку на глебе злоўжывання алкаголем, і гэтак далей. І раптам да кіраўнікоў Пентагона дайшло — іншапланецяне сапраўды існуюць, і з гэтым трэба нешта рабіць.

Калі меркаваць па амерыканскай прэсе, перагледзець старыя стэрэатыпы наконт наяўнасці НЛА прымусілі некалькі выпадкаў на ўсходнім узбярэжжы ЗША ў 2014–2015 гадах. Тады прыкладна пяць лётчыкаў бачылі дзіўныя лятаючыя аб'екты. «The New York Times» апісвае апараты наступным чынам: «Аб'екты без рухавікоў або выхлапных газаў, якія кідаліся з гіпергукавой хуткасцю, робячы нечаканыя для штучна выраблены апаратаў прыпынкі». Сведкаў-лётчыкаў ад пабачаных піруэтаў ледзь не схапіў паралюш. Усё, што адзін з іх здолеў сказаць другому: «Вау, што гэта, чувак?»

Але дакладна вядома, што ў снежні мінулага года за акіянам пачала працаваць Праграма ідэнтыфікацыі пашыранай аэракасмічнай пагрозы (AATIP), якая вывучае выпадкі, калі вайскоўцы бачылі НЛА. У межах AATIP у красавіку гэтага года былі распрацаваныя агульныя прынцыпы, якімі павінны кіравацца пілоты пры сустрэчах з НЛА і як пасля падобных кантактаў пісаць пра іх справаздачы.

Як высветлілася, гэта не першая спроба вывучэння амерыканцамі пагрозы з космасу. Хаця афіцыйна ЗША не працуе над гэтай тэмай з 1960-х гадоў, у 2007-м пры Сенаце была створана група па праблеме «нявызначаных паветраных феноменаў». На праграму было фактычна патаемна выдаткавана 22 мільёны (!) долараў. Вынікі працы гэтай групы цалкам не зразумелыя, аднак усе яе чальцы ва ўнісон кажуць, што іншапланецяне — не выдумка фантастаў.

Цяперашняя навіна ад «The New York Times» пра тое, што НЛА — як мінімум, паводле генералаў Пентагона — сапраўды існуюць, не выклікала ў амерыканцаў энтузіязму. Міжволі на думку прыходзяць пытанні: калі над намі лятаюць чужыя касмічныя апараты, што менавіта яны тут робяць? Чаму іх адправілі сюды, праз велізарныя прасторы космасу і часу? Яўна не для таго, каб узяць аўтограф у Брэда Піта.

**У снежні мінулага года за акіянам пачала працаваць Праграма ідэнтыфікацыі пашыранай аэракасмічнай пагрозы, якая вывучае выпадкі, калі вайскоўцы бачылі НЛА**

Магчыма таму СМІ заклікаюць людзей не ўспрымаць словы «НЛА» або «іншапланецяне» ў тым жа ракурсе, як нам прапануе Галівуд. Таксама як і пілоты НЛА наўрад ці падобныя на тых зялёных чалавечкаў, якіх мы прывыклі бачыць на экранах. Не варта верыць і ў тое, што іншапланецяне паклалі вока на нашу планету ў мэтах яе акупацыі і прыгнёту людзей — яшчэ адзін ходкі сюжэт галівудскіх блокбастараў. Самы арыгінальны каментар прапанавала культавае сатырычнае выданне «The Onion». Яго рэдакцыя супакоіла грамадскасць добрай навіной: у вас значна больш шанцаў загінуць ад змены клімату і атамнай вайны, чым ад атакі нейкіх марсіянаў.

А аўтарытэтнае выданне «Bloomberg» увогуле заклікае не непакоіцца, паколькі мы ўсе, на яго думку, трошкі падобныя на індзейцаў эпохі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў. «Чалавецтва XXI стагоддзя, напэўна, падобнае да амерыканскіх абарыгенаў XV стагоддзя, якія на хвілінку пабачылі дзіўныя парусныя караблі, напоўненыя дзіўнымі людзьмі, якія набліжаюцца да берага. Для чалавечай цывілізацыі абсалютна нармальная тэма — доўгі час не звяртаць увагі на іншую цывілізацыю, каб пасля раптам з ёй пазнаёміцца. Такое адбывалася і будзе адбывацца», — піша выданне.

Між тым, магчыма, нечаканая прычына прызнання існавання іншапланецян хаваецца ў забабонах амерыканскай культуры. Сярод амерыканскіх культуролагаў, як адзначае інтэрнэт-выданне «Vox», здаўна папулярная думка, што вера ў НЛА ў нейкі час ператварылася для амерыканцаў у сапраўдную рэлігію. Паводле сацыялагічных апытанняў, больш за 60 працэнтаў маладых янкі вераць у існаванне разумнага жыцця на іншых планетах. Феномен, дарэчы, заснаваны на тым жа прынцыпе, што і іншыя рэлігіі. Вера ў тое, што гісторыі пра НЛА і іншапланецян з'яўляюцца патэнцыйна праўдзівымі і могуць быць даказаныя, робіць іх выключна моцным аргументам для шматлікіх людзей.

Таму не дзіўна, што скептыцызм наконт НЛА стаў непапулярным у тым ліку сярод лётчыкаў і супрацоўнікаў Пентагона. Любую пляму на маніторы радара яны гатовыя трактаваць як патрульны карабель прышэльцаў. Тэорыя сапраўды цікавая, аднак у яе ёсць адзін слабы бок. Яе аўтары, крытыкуючы Пентагон, пагаджаюцца: на іншых планетах можа існаваць жыццё, а міжпланетныя падарожжы магчымыя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ліза Форбс



Былая звычайная брытанская санітарка, якая па прафсаюзнай лініі прабілася ў вялікую палітыку, на мінулым тыдні як кандыдат лейбарыстаў выйграла пазатэрміновыя выбары па акрузе ў Пітэрбаро — і выратавала, на думку некаторых, дэмакратычны лад на Альбіёне.

Справа ў тым, што напярэдадні выбараў букмекеры аднагалосна рабілі стаўкі на прадстаўніка ад партыі Brexit, што на травеньскіх выбарах у Еўрапарламент атрымала на акрузе каля 70 працэнтаў. Такім чынам, еўраскептыкі маглі атрымаць свой першы мандат у парламенце, справакаваўшы крызіс у шэрагах кансерватараў — іх галоўнага канкурэнта на правым флангу. Гэта, у сваю чаргу, запускала сцэнар дэстабілізацыі ўсёй палітычнай сцэны.

У выніку еўрафоб прайграў. Праўда, як кажуць некаторыя назіральнікі, перамогу Лізе Форбс забяспечылі брытанцы пакістанскага паходжання, якія, у адрозненне ад этнічных брытанцаў, прымусілі сябе пайсці на ўчасткі. Форбс, маўляў, падабаецца гэтай катэгорыі выбаршчыкаў, бо яна была фігурантам шэрагу антысеміцкіх скандалаў. Сапраўды, новаабраную дэпутатку крытыкавалі за кепскае стаўленне да Ізраіля і ЦРУ.

### Уладзімір Плахатнюк



Малдоўскі алігарх у барацьбе супраць кааліцыі з удзелам праеўрапейскага блока ACUM і прарасійскіх сацыялістаў Ігара Дадона дамогся ўнікальнага выніку — прымірэння Захаду і Расіі.

Прычыны партнёрства зразумець няцяжка. Плахатнюк дастаў Брусель сваёй брутальнай карупцыяй, што дыскрэдытуе сярод малдаван ідэі еўрапейскай інтэграцыі. Для Масквы Уладзімір Плахатнюк — таксама вораг, паколькі заблакаваў Прыднястроўе.

Каб пазбавіцца ад алігарха, геапалітычныя цэнтры і пагадзіліся аб'яднацца. Пытанне ў тым, як доўга іх саюз праіснуе. Некаторыя разглядаюць партнёрства Ігара Дадона і Маі Санду, лідаркі ACUM, як новую мадэль для шэрагу краін экс-СССР. Масква і Захад, нібыта, гатовыя адмовіцца ад уцягвання гэтых краін у свае сферы ўплыву, каб не правакаваць унутраныя і рэгіянальныя канфлікты. Замест гэтага ў Маскве і ў Брусэлі будуць імкнуцца да стварэння ў краінах шырокіх кааліцый як гарантыі геапалітычнага нейтралітэту.

Калі версія слушная, то бліжэйшым часам малдоўскую мадэль паспрабуюць перанесці на Украіну, дзе сітуацыя чымсьці падобная — карупцыя, тэрытарыяльныя праблемы, афіцыйны праеўрапейскі курс пры наяўнасці прарасійскіх сімпатый, і, урэшце, засілле алігархаў. Але іншыя палітолагі лічаць, што малдоўская мадэль Украіне не падыдзе.

### Браян Кемп



Губернатар амерыканскага штата Джорджыя, чалец Рэспубліканскай партыі, падпісаў скандальную пастанову пра абмежаванне правa на аборты і наклікаў на свой штат незвычайныя санкцыі.

Яшчэ ў траўні каля ста артыстаў Галівуда заклікалі калег да байкоту здымак у Джорджыі. А 10 чэрвеня шэраг вядучых кампаній (Disney, Warner Media, Sony, CBS) заявілі, што таксама разглядаюць магчымасць сыходу са штата. У кампаніях кажуць, што артысты масава адмаўляюцца там здымацца.

Гэта сур'ёзны ўдар па эканоміцы штата, дзе штогод здымаюць каля 450 фільмаў. Спецыялісты ўжо падлічылі: сыход кіношнікаў створыць у бюджэце рэгіёна дзірку памерам у 9 мільёнаў долараў. Акрамя таго, працу страцяць каля дзевяці тысяч занятых у мясцовай кінаіндустрыі.

Нягледзячы на сур'ёзнасць пагрозы, думаецца, што Браян Кемп наўрад ці пойдзе на саступкі. Тэма абортаў, мяркуючы па ўсім, будзе адной з галоўных на прэзідэнцкіх выбарах 2020 года. На карысць гэтай думкі — нядаўні скандал вакол Джо Байдэна, фаварыта ў кандыдаты ад дэмакратаў. Днямі ён падтрымаў федэральную праграму фінансавання абортаў, што дазволіла яго апанентам разгарнуць гучную кампанію пра непаслядоўнасць палітыка.

Застаецца згадаць кур'ёз. Паводле апытанняў, большасць (47 працэнтаў) жыхароў Джорджыі супраць новага закона. За — толькі 43 працэнты. Аднак асаблівасці выбарчага галасавання забяспечваюць перавагу ў заканадаўчым органе Джорджыі кансерватыўным дэпутатам.

# Бяроза-Картузская. Месца



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У савецкія часы гісторыя месца ізаляцыі, створанага польскімі ўладамі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, выкарыстоўвалася як асноўны аргумент у абгрунтаванні «фашызацыі» міжваеннай Другой Рэчы Паспалітай. Маўляў, палякі не далёка адышлі ад сваіх заходніх суседзяў, карысталіся доследам нацыстаў і знішчалі «барацьбітоў за свабоду беларускага і ўкраінскага народаў». На жаль, і сёння гэты сумны гістарычны сюжэт выкарыстоўваецца дзяржаўнай ідэалогіяй дзеля таго, каб прадэманстраваць «фашысцкае нутро санацыйнага рэжыму». Пры гэтым не робіцца спробы прааналізаваць знешнія і ўнутраныя фактары з'яўлення і функцыянавання гэтага жахлівага месца.**

## Узор бралі ад нацыстаў і бальшавікоў

Афіцыйнай датай з'яўлення месца ізаляцыі ў Бярозе-Картузскай лічыцца 12 ліпеня 1934 года. Яшчэ ў чэрвені таго ж года было выдадзена афіцыйнае распараджэнне прэзідэнта Другой Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага «ў сувязі з асобамі, якія пагражаюць дзяржаўнай бяспецы, спакою і публічнаму парадку». Фактычным прэтэкстам да стварэння лагера было забойства 15 чэрвеня 1934 года сябрам Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў Рыгорам Мацэйкам польскага міністра ўнутраных спраў Браніслава Пярацкага. У савецкай гістарыяграфіі падкрэслівалася, што за ўзор для новай пенітэнцыярнай установы польскія ўлады бралі нацысцкі лагер «Дахаў», які быў створаны вясной 1933 года.

Аднак палякі добра ведалі і досвед сваіх усходніх суседзяў — бальшавікоў. У жніўні 1933 года камандаванне Корпуса аховы памежжа падрыхтавала для польскай выведкі і вайсковага кіраўніцтва аналітычную працу «АДПУ. Кіраўніцтва і канцэнтрацыйныя лагеры СССР». У ёй польскія аналітыкі дэталёва апісвалі пенітэнцыярную сістэму бальшавікоў на тэрыторыі БССР, УССР, РСФСР, пры гэтым асаблівую ўвагу надавалі функцыянаванню сістэмы ГУЛАГ. Адкуль браліся дадзеныя? Іх польскія памежнікі атрымлівалі ад шматлікіх перабежчыкаў, а таксама ад асобаў, якіх абменьвалі на чыгуначнай станцыі Коласава ў 1930-я гады. З кожным з тых, хто ўратаваўся з імперыі Сталіна, польскія памежныя выведнікі праводзілі падрабязную размову і запісвалі ўсе дэталі іх знаходжання ў савецкіх турмах і лагерах.

Чаму менавіта Бяроза? На гэтае пытанне ёсць некалькі адказаў. Па-першае, Заходняя Беларусь была даволі не спакойным для польскіх уладаў рэгіёнам, дзе пастаянна адбываліся выступленні незадаволеных жыхароў. Па-другое, кіраўніком Палескага ваяводства, на тэрыторыі якога знаходзілася месца ізаляцыі ў Бярозе, быў палкоўнік Вацлаў Костэк-Бярнацкі. Раней ён быў камендантам Брэсцкай крэпасці і праявіў сябе як жорсткі праціўнік любой апазіцыйнасці. Варшава разумела, што гэты адэпт палазіцыйнай палітыкі, ды яшчэ і жорсткі вайсковец, зможа арганізаваць эфектыўную працу па «перавыхаванні непажаданых элементаў».

Галоўнай афіцыйнай задачай «Бярозы» было супакойванне і маральнае прыніжэнне праціўнікаў дзеючай улады. Месца ізаляцыі не было ў нацысцкім сэнсе «лагерам смерці» ці бальшавіцкай «дапамогай у будаўніцтве народнай гаспадаркі». Варшава імкнулася ізаляваць ад грамадства ўсіх сваіх праціўнікаў і апанентаў. Не забіваць іх, але, з дапамогай цяжкіх умоў знаходжання, зламаць іператварыць у «паслухмяных грамадзян». Пры гэтым, безумоўна, варта падкрэсліць, што з'яўлення месца ізаляцыі ў Бярозе-Картузскай не ўпісвалася ні ў якія дэмакратычныя рамкі і сведчыла пра аўтарытарызм, які панаваў на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай у другой палове 1930-х гадоў.

## Лёс вырашаў ваявода

Накіроўваў у «Бярозу-Картузскую» не суд. Першапачатковая заява пра затрыманне і накіраванне асобы ў месца ізаляцыі складалася ў паявятовым камісарыяце паліцыі. У большасці дакументаў адзначалася, што затрыманага «неабходна выключыць з грамадска-палітычнага жыцця». Пазней дакументы траплялі да старасты, які рыхтаваў іх для кіраўніка грамадска-палітычнага адзела Ваяводства. Пасля гэтага дакументы перадавалі следчаму Адміністрацыйнай калегіі Акруговага суду ў Пінску, які на працягу 48 гадзін падпісваў рашэнне аб накіраванні грамадзяніна ў «чырвоныя казармы».

Адзначым, што такая мера першапачаткова прымянялася супраць тых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, супраць якіх у паліцыі не было ніякіх доказаў іх «злачынства». Логіка польскіх уладаў была простай: напісаў чалавек артыкул, пакрытыкаваў афіцыйную Варшаву, да паўстання не заклікаў, але небяспечны, бо вальнадумец. Яшчэ і адукаваны. За такім могуць пайсці людзі, ці бальшавікі выкарыстаюць. Лепей яго «зачыніць» у Бярозе-Картузскай. Праўда, пазней да ліку польскіх апазіцыянераў, вязняў месца ізаляцыі ў «Бярозе» дадаліся шматлікія камуністы і, што горш, крымінальныя злачынцы.

## «Штрафбат» для паліцыянтаў

Ахоўвалі лагер супрацоўнікі польскай дзяржаўнай паліцыі. Супраць гэтага выступаў галоўны камендант паліцыі генерал Кардзіян Заморскі. Справа ў тым, што турмы на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай ахоўвала спецыяльная турэмная служба (Straż Więzienna), аднак у выпадку «Бярозы-Картузскай» яе вязняў ахоўвалі звычайныя супрацоўнікі паліцыі. Заморскі неаднаразова звяртаўся да міністра ўнутраных спраў Мар'яна Зындрама-Касцялкоўскага з просьбай замяніць ахову, аднак гэтага не было зроблена.

Чаму ж камендант не хацеў накіроўваць паліцыянтаў у месца ізаляцыі? Справа была звязаная з тым, што ў «Бярозе-Картузскай» ахове дазвалялася «ўсё». Здзекі са зняволеных ламалі не толькі псіхіку вязняў, але і змянялі паліцыянтаў. Былі вядомыя факты, што пасля службы ў «Бярозе» супрацоўнікаў дзяржаўнай паліцыі накіроўвалі ва ўзводы рэзерву, каб толькі тыя не выходзілі на вуліцы і не ганьбілі паліцэйскую службу. Так, у 1935 годзе некаторыя ахоўнікі «Бярозы-Картузскай» былі пераведзеныя ў роту рэзерву паліцыі ў Жэрардаве. Былі выпадкі, калі пасля службы ў месцы ізаляцыі паліцыянты змянялі прозвішчы. Нарэшце, некалькі ахоўнікаў скончылі жыццё самагубствам.

**Логіка польскіх уладаў была простай: напісаў чалавек артыкул, пакрытыкаваў афіцыйную Варшаву, да паўстання не заклікаў, але небяспечны, бо вальнадумец. Яшчэ і адукаваны. За такім могуць пайсці людзі, ці бальшавікі выкарыстаюць**




Крама былога кантрабандыста, якога накіравалі ў «Бярозу-Картузскую»




Адміністрацыя «Бярозы-Картузскай»




Адзін з першых вязняў «Бярозы-Картузскай»

«Адносіны паліцэйскіх да вязняў былі розныя. Некаторыя прыносілі ежу і давалі яе ў прыбіральні. Але гэта былі выключэнні. Большасць была вельмі грубай, сказаў бы нават па-звярынаму грубай», — адзначаў адзін з вязняў ва ўспамінах. Першым камендантам «Бярозы» быў падінспектар паліцыі Баляслаў Грэфнэр, але ўжо ў снежні 1934 года яго змяніў падінспектар Юзаф Камала-Курхальскі, які стаў апошнім камендантам месца ізаляцыі.

## Шлях у чырвоныя казармы

Ужо ў лютым 1934 года ў «Бярозу» прыбылі першыя вязні. Са следчага ізалятара чалавека вывозілі на чыгуначны вакзал, адкуль везлі ў кірунку станцыі Блудзень (зараз Бяроза-Картузская). Звычайна транспарціроўка адбывалася ў спецыяльным турэмным вагоне. Як адзначае польскі даследчык Войцэх Слешынскі, у цягніку паліцыянты ставіліся да арыштантаў ветліва, нават здымалі кайданкі. Аднак, калі цягнік прыходзіў на станцыю прызначэння, настрой аховы змяняўся. Станцыя Блудзень знаходзілася ў 5 кіламетрах ад месца ізаляцыі. Звычайна вязні праходзілі гэтую адлегласць пешшу, пад аховай паліцыянтаў.

Класічным тэрмінам зняволення ў «Бярозе-Картузскай» былі 3 месяцы, праўда, часта вязням даводзілася затрымацца ў месцы ізаляцыі на год і больш. Пасля вызвалення быў вязень павінен быў цалкам «развітацца» з мінулым жыццём. Аднак так рабілі не ўсе. Большасць сяброў КПЗБ і КПЗУ аказваліся ў «Бярозе-Картузскай» па некалькі разоў.

Варта адзначыць, што месца ізаляцыі знаходзілася ў былых царскіх «чырвоных» казармах, якія ў пачатку XX стагоддзя пабудавалі з цэглы, што бралі з разбуранага картузіянскага манастыра. На ўваходнай браме быў надпіс «Miejsce Odosobienia» (месца ізаляцыі). Тут еўрапейская цывілізацыя заканчвалася і пачыналася пекла на зямлі. Новых вязняў пад крыкі і біццё гумавымі палкамі вялі ў канцылярыю, дзе яны атрымлівалі асабістыя нумары, якія выдаваліся ў храналагічным парадку.

У нацыянальным архіве Беларусі ў Брэсце захоўваюцца асабістыя справы вязняў. Апошні нумар на тэчцы — 3091. Большасць даследчыкаў адзначае, што за перыяд існавання месца ізаляцыі праз яго казематы прайшлі каля трох тысяч чалавек. Так, у кастрычніку 1934 года ў «Бярозе-Картузскай» знаходзілася 390 зняволеных; у красавіку 1938-га — 800; у студзені 1939 года — 502; у жніўні 1939-га — 524.

# ізаляцыі, трагедыя, памяць

## Жудасная рэчаіснасць

Пасля рэгістрацыі вязняў гналі на склад, дзе тыя пакідалі ўсе асабістыя рэчы. Людзям выдавалі лагерныя робы, а зімой яшчэ і плашч. Вязні таксама атрымлівалі кавалкі матэрыі з нумарам. Адну трэба было нашыць на спіну, а другую — на левы рукаў. Увесь час ахова крычала на вязняў і біла гумавымі дручкамі. Якраз гэтыя паводзіны паліцыянтаў так непакоілі галоўнага каменданта польскай паліцыі Заморскага. Адміністрацыя лагера ператваралася ў беспакараных садыстаў.

Вязні знаходзіліся ў адмысловых камерах па 20–40 чалавек. Горшай была камера №15, якую паліцыянаты называлі «афіцэрскай». Туды саджалі «найгоршых парушальнікаў дысцыпліны». Дзень вязня пачынаўся ў 4 гадзіны раніцы, у 5 гадзін быў сняданак, з 6 па 11 была праца і практыкаванні, у 11-30 —13 — абед, 13–17 — праца, 17–18 вяртанне ў месца ізаляцыі, 18–19 — вячэра, 19 — адбой. Вязні працавалі ў майстэрні па вытворчасці бетоннай пліткі, брукавалі дарогі, баранавалі зямлю, выбіралі кампост. Аднак за гэтымі няхітрымі працамі хаваліся сапраўдныя цяжкія выпрабаванні. Напрыклад, падчас баранавання на барану клаўся вялікі камень. Гэтую канструкцыю цягнуў знясілены чалавек, якога яшчэ і білі.

Сапраўдным выпрабаваннем быў паход у прыбіральню. Справа ў тым, што вязні павінны былі паспець аправіцца за час, пакуль паліцыянт лічыў «да чатырох». Пры гэтым у прыбіральню заганялася некалькі дзясяткаў чалавек, якія вымушаны былі рабіць «свае справы» наўпрост на падлозе. Прыбіралі за імі самі вязні. Пры гэтым рабілі гэта рукамі, бо ніякіх прылад працы ім не выдавалася. Найбольш лёгкай працай была ўборка казармаў і будынку адміністрацыі месца ізаляцыі.

Па суботах была лазня, пры гэтым зняволеныя мыліся... бягом. Забягалі, намыльваліся, беглі змывацца. Увесь гэты час паліцыянты білі іх гумавымі дручкамі. Падобным чынам адбываўся і «прыём ежы»: людзі забягалі ў сталоўку, атрымлівалі ежу і елі, пакуль паліцыянты не давалі сігнал аб завяршэнні сняданка, абеду ці вячэры.

Варта адзначыць, што рэжым знаходжання ў камерах быў таксама вельмі жорсткім. У выходныя вязняў ставілі тварам да сцяны — і так яны стаялі цягам дня. Пры гэтым забаранялася гаварыць і глядзець у вочы. Найбольш цяжкім пакараннем было накіраванне ў карцар, які знаходзіўся ў былым артылерыйскім складзе. Вязень вымушаны быў спаць на бетоннай падлозе, якую часта палівалі вадой. У выніку з карцара выходзіў знясілены, хворы чалавек. Адзін з вязняў за тыдзень знаходжання ў гэтай камеры... пасівеў.

## Ахвяры

За час існавання месца ізаляцыі ў Бярозе памерлі 13 чалавек. Так, 13 траўня 1936 года памёр сябар КПЗБ Абрам Германскі (№ 624); 26 траўня 1936 года — сябар КПЗБ з Бельскага павета Алесь (па іншых дадзеных — Ян) Мазырка (№ 511); 9 траўня 1937 года — Маісей Малізман (№ 780); 18 студзеня 1938 года — Пыжакоўскі (№ 1678); 22 сакавіка 1938 года — Рыневіч (№ 1610); 1 красавіка 1938 года — Язэп Нядзельскі (№ 1725); 15 чэрвеня 1938 года — Міхаіл Крыванос (№ 2069); 16 чэрвеня 1938 года — Падсачук (№1826); 5 лютага 1939 года — Федаровіч (№ 2601); 9 лютага 1939 года — Оскар Крэчмер (№ 2693); 30 сакавіка 1939 года — Караль Краўчук (№ 2600); 13 ліпеня 1939 года — Альберт Вальдман (№ 3000). Нехта з вязняў не вытрымаў знаходжання ў карцары, іншыя пацярпелі ад пабояў. Большасць з гэтых людзей памерла ў шпіталі ў Кобрыне, куды іх пераводзілі з месца ізаляцыі.

5 лютага 1939 года адзін з вязняў «Бярозы-Картузскай» Давід Цымерман скончыў жыццё самагубствам. Былі і адзіныя ўдалыя ўцёкі з месца ізаляцыі. Крымінальны злачынца Уладзіслаў Новак, якога прывезлі ў Бярозу ў снежні 1937 года, зрабіў дзірку ў сцяне, прабраўся ў арыштанцкую кухню, адкуль выйшаў у двор, пералез праз агароджу і накіраваўся ў раён вёскі Кабакі. Далейшы яго лёс не вядомы.

Як і ў савецкіх лагерах, адміністрацыя «Бярозы-Картузскай» карысталася дапамогай крымінальных злачынцаў. Адзін з іх, крымінальнік Душчанка з Люблінайшчыны, «прыдумаў» асаблівае выпрабаванне для палітычных зняволеных — «Дарогу Сталіна». Дыстанцыю ў 30 метраў абсыпалі бітай чырвонай цэглай і прымушалі камуністаў і іншых «апазіцыянераў» поўзаць па-пластунску ці на каленях па вострай цэгле.


Месца ізаляцыі ў «Бярозе-Картузскай», 1930-я гады

**Падінспектар Юзаф Камала-Кургальскі быў адным з тых, хто нёс адказнасць за жахі, якія перажылі вязні месца ізаляцыі. Яго арыштавала гестапа і накіравала ў канцлагер «Аўшвіц». Бумеранг вярнуўся яму ў самай жорсткай форме**


Уніформа вязняў «Бярозы-Картузскай»

## Канец месца ізаляцыі

На момант пачатку Другой сусветнай вайны ў «Бярозе-Картузскай» знаходзіліся розныя людзі. Акрамя значнай колькасці заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх камуністаў, там сядзелі ўкраінскія нацыяналісты, польскія апазіцыянеры і грамадскія дзеячы, дзеячы беларускіх палітычных партый. Сярод іншых у сакавіку 1939 года туды трапіў польскі журналіст Станіслаў Цат-Мацкевіч. Яго абвінавацілі ў «аслабленні абарончага духу палякаў». Гэты чалавек крытыкаваў палітыку міністра замежных спраў Другой Рэчы Паспалітай Юзафа Бека.

У 1939 годзе ў чырвоных казармах аказаўся і сенатар, беларус Вячаслаў Васільевіч Багдановіч. Ён актыўна выступаў супраць аўтакефаліі польскай праваслаўнай царквы. Іншым вязням «Бярозы-Картузскай» быў забойца Сава Дранюк, які паходзіў з-пад Кобрына.

Пасля нападу Германіі на Польшчу сярод вязняў месца ізаляцыі апынуліся шматлікія польскія грамадзяне з нямецкімі каранямі, грамадзянствам Трэцяга Рэйху і проста нямецкімі прозвішчамі. Ужо падчас баявых дзеянняў паміж Войскам Польскім і вермахтам сярод зняволеных «Бярозы-Картузскай» было некалькі пілотаў люфтвафэ. «У першыя вераснёўскія дні з'явіліся два палонныя гітлераўскія лётчыкі. Яны сябе ў канцылярыі адчувалі як у гасцях. Хадзілі, гулялі свабодна. Пралятаюць нямецкія самалёты — яны ім махаюць рукой і ўсміхаюцца. І ніхто з наглядчыкаў ім нічога не казаў», — узгадваў адзін з вязняў месца ізаляцыі.

Між тым польска-германскі фронт хутка набліжаўся да Бярозы. 14 верасня 1939 года немцы пачалі штурм Брэсцкай крэпасці, а хутка жаўнеры вермахта былі пад Кобрынам. Паліцэйскія, якія ахоўвалі месца ізаляцыі, не ведалі, што рабіць, а вось вязні баяліся правакацый. Некаторыя думалі, што іх расстраляюць. Але польскія паліцыянты пра гэта ўжо не думалі. 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. У ноч на 18 верасня ахова месца ізаляцыі пакінула месца службы. Хутка вязні пачалі выходзіць з тэрыторыі месца ізаляцыі. Некаторыя з іх узбройваліся і ішлі помсціць прадстаўнікам польскай вертыкалі ўлады. Сава Дранюк пайшоў забіваць польскіх грамадзян. Некаторыя «бярозаўцы» накіраваліся ў Брэст, дзе палявалі на польскіх паліцэйскіх.

Па прызнанні аднаго з вязняў, ім удалося злавіць некалькіх польскіх паліцыянтаў у горадзе на Бугу і павесіць іх. Пазней шмат польскіх паліцыянтаў, якія ахоўвалі «Бярозу-Картузскую», трапілі ў савецкі палон і загінулі падчас расстрэлаў у Медным. Сярод іх быў і пастарунковы дзяржаўнай паліцыі Стэфан Навасельскі. Яшчэ ў 1928 годзе ён служыў у Чырвонай Арміі ў БССР, аднак потым збег у Польшчу. Служыў у камендатуры паліцыі ў Любліне, а ў чэрвені 1938 года быў пераведзены ў ахоўную роту месца ізаляцыі «Бяроза-Картузская». У 1939 годзе трапіў у савецкі палон і быў забіты ў 1940 годзе ў Калініне.

Не менш трагічна склаўся лёс і апошняга каменданта «Бярозы-Картузскай». Падінспектар Юзаф Камала-Кургальскі быў адным з тых, хто нёс поўную адказнасць за жахі, якія вымушаны былі перажыць вязні месца ізаляцыі. У верасні 1939 года камендант эвакуяваўся з Бярозы. У 1940 годзе ў Тарнаве яго арыштавала гестапа, а ў студзені 1941 года паліцыянта накіравалі ў канцэнтрацыйны лагер «Аўшвіц». Бумеранг, які гэты чалавек запусціў у 1934 годзе ў выглядзе здзекаў з вязняў «Бярозы-Картузскай», вярнуўся яму ў самай жорсткай форме. Вязні хутка пазналі былога каменданта. Адзін з іх паведаміў немцам, што Камала-Кургальскі здзекаваўся з нямецкіх пілотаў у верасні 1939 года. За гэта эсэсаўцы жорстка збілі паліцыянта. Зімой 1941 года іншыя вязні «Аўшвіца» зноў збілі каменданта. Урэшце ў кастрычніку 1941 года падінспектара забілі вязні-камуністы, якія ў 1930-я гады сядзелі ў «Бярозе-Картузскай».

У «Бярозе-Картузскай» не было столькі ахвяр, як у нацысцкіх лагерах смерці ці сталінскім ГУЛАГу. Аднак гэта не азначае, што польскае месца ізаляцыі варта лічыць «Домам адпачынку для палітычных праціўнікаў рэжыму санацыі». Гэта было жудаснае месца, дзе адны людзі забывалі пра маральныя і чалавечыя якасці і ператвараліся ў драпежных жывёлаў, а іншыя вымушаны былі цярпець прыніжэнні і змагацца за жыццё.

У 1962 годзе побач з чырвонымі казармамі ў Бярозе паставілі помнік. Сёння ў будынках, дзе ў 1930-я гады знаходзіліся зняволеныя, размяшчаюцца крамы і камерцыйныя ўстановы. Гісторыя месца ізаляцыі «Бяроза-Картузская» даказвае, што «сон розуму нараджае пачвар». Тую трагедыю варта памятаць, каб не дапусціць яе паўтарэння.


Помнік побач з чырвонымі казармамі

# БагатаДата

**«Белая маланка», першы трактар, прыватны музей і яшчэ шмат цікавостак у нашым аглядзе.**

## 15 чэрвеня

**1954.** У вёсцы Згурск Чэрвеньскага раёна на Міншчыне нарадзіўся этнограф Іван Крук, ён працаваў прарэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў і рэктарам Інстытута культуры Беларусі.

**1959.** У вёсцы Сухары Чавускага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся тэатральны рэжысёр Аляксандр Гарцуеў, мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.

**1979.** У Брэсце нарадзілася лёгкаатлетка Юлія Несцярэнка, якая стварыла суперсенсацыю на Алімпійскіх гульнях у Афінах 2004 года. Яна заваявала залаты медаль у прэстыжнай дысцыпліне — бегу на 100 метраў, абышоўшы цемнаскурых бягух, якія традыцыйна перамагаюць. За гэты выступ Несцярэнка атрымала спартовую мянушку «Белая маланка».

## 16 чэрвеня

**1834.** У вёсцы Дудзічы Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся Аляксандр Ельскі, краязнаўца, гісторык і літаратар, адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры і збіральнікаў беларускіх рукапісаў. У 1864 годзе ў сваім маёнтку Замосце Аляксандр Ельскі арганізаваў прыватны краязнаўчы музей, у фондах якога было каля 7 тысяч кніжак, 20 тысяч рукапісаў, больш за тысячу гравюраў, калекцыі карцінаў, манетаў і медалёў. Кніжныя і рукапісныя зборы Ельскага цяпер знаходзяцца ў асноўным у Варшаве і Кракаве, часткова — у Мінску і Вільні. Аляксандр Ельскі — першы біёграф пісьменніка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Пераклаў на беларускую мову першую частку паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

## 17 чэрвеня

**1934.** Прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі выдаў распараджэнне пра стварэнне ў Бярозе-Картузскай (цяпер гэта горад Бяроза ў Брэсцкай вобласці) лагера, куды змяшчалі пазасудова «асобаў, якія ствараюць пагрозу бяспецы, спакою і грамадскаму парадку». Шмат сядзельцаў было сярод актывістаў нацыянальных меншасцяў, у тым ліку беларусаў. Вязні ўтрымліваліся ў лагеры ва ўмовах няспынных здзекаў. Яны былі вымушаны ўсё выконваць бегма і не маглі размаўляць паміж сабой. У прыбіральню выводзілі толькі адзін раз на суткі ранкам. Загадвалі мыць прыбіральні і падлогі, не давалі мыць рукі перад харчаваннем. Забаронена было і праць вопратку. Зняволеных прымушалі рабіць бессэнсоўную цяжкую працу: выкопваць і засыпаць ірвы, пераносіць валуны з месца на месца. Вызваленыя з лагера мусілі цалкам спыніць грамадска-палітычную дзейнасць і не мелі права распавядаць нікому пра ўмовы ўтрымання там пад пагрозай новага зняволення.

## 18 чэрвеня

**1939.** У Маскве нарадзіўся кампазітар і арганіст Алег Янчанка, які з 1963 па 1971 гады жыў у Беларусі, дзе заснаваў Мінскі камерны аркестр — цяпер Дзяржаўны камерны аркестр. Адкрыў некалькі арганаў у Беларусі.

**1949.** Мінскі трактарны завод выпусціў першы трактар. Гэта быў эксперыментальны асобнік. Праз год сабралі працуючы трактар.

**1979.** У Мінску нарадзіўся фрыстайліст Аляксей Грышын. Менавіта ён заваяваў першы залаты медаль у гісторыі Беларусі на зімовых Алімпійскіх гульнях (Ванкувер, 2010 год). Да гэтага ў 2002 годзе ў яго была «бронза» ў Солт-Лэйк-Сіці.

## 19 чэрвеня

**1924.** У вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Класік беларускай літаратуры. Васіль Быкаў стаў шырока вядомы пасля публікацыі аповесці «Трэцяя ракета». Далей з ваенна-экзістэнцыйнай прозы былі «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Знак бяды», «У тумане», «Аблава»... Шмат па якіх творах Быкава зняты фільмы. Стужка «Узыходжанне» паводле «Сотнікава» атрымала галоўную ўзнагароду Берлінскага кінафестывалю «Залаты мядзведзь». У Быкава скалілся непрыязныя адносіны з цяперашняй уладай Беларусі. Таму дагэтуль у Мінску няма вуліцы ў гонар пісьменніка.

## 20 чэрвеня

**1939.** У Мінску нарадзіўся тэатральны рэжысёр Валерый Раеўскі, народны артыст Беларусі. Цягам 35 гадоў з 1967-га быў мастацкім кіраўніком Купалаўскага тэатра.

## 21 чэрвеня

**1864.** У вёсцы Бялевічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся этнограф Аляксандр Сержпутоўскі. Асноўныя працы: «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў», «Кароткі слоўнік беларускай дзіцячай мовы», «Зборнік беларускіх прыказак і прымавак». Галоўная яго праца «Быт беларусаў» знікла пасля таго, як з архівам Акадэміі навук была вывезеная ў Германію.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**




Амбасадарка Вялікабрытаніі Фіёна Гібс

# Валыншчыкі, Dan Owen, шоу робатаў…

## Вялікі брытанскі фестываль запрашае!

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У мінскім Верхнім горадзе 23 чэрвеня пройдзе Вялікі Брытанскі фестываль, а 22 чэрвеня будзе працаваць брытанская фан-зона ля Палаца спорту ў межах Еўрапейскіх гульняў. Амбасадарка Вялікабрытаніі Фіёна Гіб анансавала праграму мерапрыемстваў.**

Агулам наведвальнікаў фестывалю чакаюць 14 тэматычных пляцовак, у тым ліку экалагічная, адукацыйная, творчая, інавацыйная, аўтамабільная, літаратурная, дабрачынная, гістарычная. Будуць працаваць фудкорт і кінатэатр на вольным паветры. На галоўнай сцэне выступяць спявак Dan Owen (Лондан), індзі-рок гурт «Clean Cut Kid» (Ліверпуль), шатландскі кавер-гурт «Somethin' Regenerated». І 22-га, і 23-га чэрвеня дзень будзе «закрываць» DJ Blaise.

Вялікі брытанскі фестываль адкрые шэсце валыншчыкаў, якія ў 12.30 пройдуць ад Амбасады Вялікабрытаніі (вуліца Карла Маркса, 37) да Плошчы Свабоды. Афіцыйны пачатак фестывалю — у 13.00. На галоўнай сцэне валыншчыкі выступяць разам з беларускім аркестрам.

Сёлета ўпершыню на Вялікім Брытанскім фестывалі будуць працаваць зоны «Інавацыі», «Гісторыя» і «Экалогія». На інавацыйнай пляцоўцы Акадэмія навук пакажа шоу робатаў, а IT-кампаніі распавядуць пра беларуска-брытанскія праекты.

Гандляры і салдаты з Шатландыі з'явіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI стагоддзі па запрашэнні Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Сувязі між нашымі краінамі на гістарычнай пляцоўцы прадэманструюць рэканструктары шатландскай пяхоты.

У зоне «Экалогія» арганізацыі адпаведнага профілю раскажуць дзецям і дарослым, як правільна сартаваць смецце і эканоміць ваду. Акрамя таго, на фестывалі будзе арганізаваны асобны збор смецця і мінімізавана выкарыстанне пластыку.

Фудкорт стварыць больш за 30 рэстаранаў. Кожны дадасць у меню нейкую страву брытанскай кухні. Наведвальнікі змогуць пакаштаваць любімыя брытанцамі напоі — піва і сідр.

У Карэтным дворыку разгорнецца адукацыйная пляцоўка. Можна будзе праверыць свой узровень валодання англійскай моваў, даведацца пра адукацыйныя праграмы ў Вялікабрытаніі, паўдзельнічаць у майстар-класе па стварэнні чароўных палачак у кутку Гары Потэра. У зоне «Літаратура» англійскі пісьменнік Найджэл Робертс прэзентуе сваю кнігу «Гід па Беларусі» і падзеліцца ўражаннямі пра нашу краіну. Будуць прадавацца кнігі ангамоўных аўтараў. Упершыню на фестывалі прадэманструюць пераклады англійскіх твораў на беларускую мову.

Вуліца Зыбіцкая ператворыцца ў спартыўную пляцоўку з рэгбі, кёрлінгам і тэнісам. Там жа зробяць адмысловую сцяну, дзе паўстане графіці на брытанскую тэматыку. На Свабоды, 4 будзе працаваць аўтасалон, дзе прэзентуюць новыя мадэлі «Bentley» і «Land Rover», а «Jaguar Club Belarus» арганізуе экспазіцыю рэтра-аўтамабіляў.

Акторы тэатра Янкі Купалы будуць чытаць санеты Шэкспіра і іншыя вершы. Тэатралы змогуць пабачыць лялечную пастаноўку «Панч і Джудзі» (гэта класіка кшталту рускага Пятрушкі) ад выкладчыка і актора Роберта Стайлза і, для параўнання, беларускую батлейку «КапялюШ». На галоўнай сцэне пакажуць свае калекцыі дызайнеры праекта Fashion Scout (Лондан).

Менеджарка фестывалю Ірына Малінская адзначыла, што сёлета амбасада Вялікабрытаніі акцэнтуе ўвагу на новых тэндэнцыях і на фестывалі будзе шмат маладых удзельнікаў. Фіёна Гіб запрашае таксама наведаць выставу, прысвечаную брытанскай спявачцы Эмі Уайнхаўз, бабуля якой нарадзілася ў Мінску. Адкрыццё выставы 15 чэрвеня ў Музеі гісторыі Мінска. Яна будзе працаваць да жніўня. Дарэчы, кавер-канцэрт з песнямі Эмі дасць у брытанскай фан-зоне 22 чэрвеня беларуская спявачка Настасся Малашкевіч. З поўнай праграмай мерапрыемстваў можна пазнаёміцца на сайце амбасады Вялікабрытаніі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №914

Падпісана да друку 14.06.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.